# Беларус

**Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!**
Францішак Багушэвіч
(1840-1900)

**№ 367 Люты 1990**
Год выд. XXXIX

**BIELARUS** / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00


## БЕЛАРУСКІ ДЭМАКРАТЫЧНЫ ФОРУМ

10-га лютага ў Менску адбыўся Беларускі дэмакратычны форум, які замацаваў саюз усіх прагрэсыўных сілаў рэспублікі на выбарчую кампанію 1990 году і далейшае супрацоўніцтва ў новым парляманьце. У блёк увайшлі: Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», Таварыства Беларускай Мовы, Акадэмія Навук, Беларускі Экалягічны Саюз, Саюз Каапэратываў Беларусі, Беларускі Сялянскі Саюз, Рабочы Саюз Беларусі, творчыя саюзы, група народных дэпутатаў СССР.

Асноўчыя спрэчкі на форуме вяліся аб стаўленьні да камуністаў і іхнага ўдзелу ў рабоце блёку, аб агульнай плятформе саюзьнікаў. Выбары ў Вярхоўны Савет БССР і ў мясцовыя Саветы адбудуцца 4-га сакавіка. Вырашана падтрымліваць тых камуністаў, якія стаяць на плятформе блёку. За плятформу блёку абраная плятформа Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

У аднэй з рэзалюцыяў форум выказаў недавер Цэнтральнай выбарчай камісіі як неаб'ектыўнай і недэмакратычнай установе, якая павінна быць зьліквідаваная.

У звароце форуму да жыхароў Беларусі, між іншага, сказана:

«Гэтыя вбары вызначальныя для лёсу Бацькаўшчыны і нашага грамадзтва. Пакуль ня будзе вырашанае палітычнае пытаньне аб адхіленьні партапарату ад дзяржаўнай улады, ніякія зьмены ў грамадзтве немагчымыя, ніякага паляпшэньня жыцьця не прадбачыцца. Намэнклятура адчула небясьпеку ад народнай ініцыятывы і моцна ўчапілася ў свае крэслы. Паўсюдна яна выставіла свае кандыдатуры. Мы сталі сьветкамі шматлікіх апаратных апэрацыяў і ашуканскага прымяненьня і без таго антыдэмакратычнага закону аб выбарах.

Першы этап выбарчай кампаніі паказаў, што апарат здольны на любыя несумленныя ўчынкі, каб толькі трапіць у Саветы. Мы заклікаем выкрэсьліваць усіх апаратна-намэнклятурных кіраўнікоў, іх стаўленікаў і паслугачоў. У тых акругах, дзе шляхам падману і прававога нігілізму функцыянеры з выбарчых камісіяў не дапусьцілі да рэгістрацыі вылучаных дэмакратычных кандыдатаў, выкрэсьлівайце зь бюлетэня ўсіх і рыхтуйцеся да паўторных выбараў. Галасуйце за кандыдатаў блёку дэмакратычных сілаў кандыдатаўм даваяраеце! Падтрымлівайце выбарчую плятформу Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»! Галасуйце за дэмакратыю, галасуйце за Беларусь!»

Кандыдаты ў Вярхоўны Савет рэспублікі ад Дэмакратычнага блёку вылучаныя ў 120 акругах (усіх акругаў 310). З 48 акругаў Менску прадстаўнікі блёку зарэгістраваныя ў 45 акругах.

Назіраецца аднак рэзкі спад актыўнасьці выбаршчыкаў — як мяркуюць, у выніку паглыбленьня эканамічнага крызісу і незадаволенасьці работай Вярхоўнага Савету СССР. Галасаваць у выбарах 4-га сакавіка могуць пайсьці толькі каля 60 працэнтаў выбаршчыкаў.

*(Паводля паведамленьняў менскага карэспандэнта радыё «Свабода»)*

## МАНІПУЛЯЦЫІ З ВОЙСКАМ

**Ад Рэдакцыі**: *Да нас дайшла зь Беларусі машынапісная заява пад заг. «Маніпуляцыі з войскам». Ніжэй падаём поўны тэкст:*

Намэнклятура вырашыла выкарыстаць у выбарах на Беларусі савецкае войска, разьмешчанае на тэрыторыі Польшчы. У Цэнтральнай выбарчай камісіі нашым карэспандэнтам высьветлена, што войскі будуць галасаваць па наступных выбарчых акругах:

*Гомельская вобласьць:*
1. Нараўлянская акруга № 222.
2. Кастрычніцкая акруга № 223.

*Магілеўская вобласьць:*
3. Хоцімская акруга № 307.
4. Чэрыкаўская акруга № 309.
5. Краснапольская акруга № 300.
6. Круглянская акруга № 302.

*Віцебская вобласьць:*
7. Расонская акруга № 519.

*Гарадзенская вобласьць:*
8. Бераставіцкая акруга № 247.

Калі ўлічыць, што ў Польшчы знаходзіцца каля 80 тысячаў душ савецкага войска, то выходзіць у сярэднім па 10 тысячаў вайсковых выбаршчыкаў на акругу. Шмат дзе гэта роўна (а то і больш) колькасьці ўсіх мясцовых выбаршчыкаў у акрузе.

Можна ўявіць, як будуць галасаваць у савецкіх гарнізонах у Польшчы за кандыдатаў на Беларусі і дзе якіх вынікаў гэта прывядзе. Невыпадкова, відаць, у сфэру гэтага «галасаваньня» ўключаныя «чарнобыльскія» акругі, дзе шансы апаратчыкаў хісткія. Як бачым, намэнклятура, што хоча, тое і робіць, абы ўседзець у крэслах. Нават адзінае права народу — выкрасьліць начальнікаў, і тое хочуць зрабіць немагчымым. У такіх варунках, калі ўжо няма ніякіх правоў, чалавеку нічога не застаецца, як даць свайму прыгнятальніку па шыі. Да гэтага, відаць, і кіруецца.

**Мар'ян Ванькевіч**

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА — ДЗЯРЖАЎНАЯ!

Вярхоўны Савет БССР 26 студзеня 1990 г. абвесьціў беларускую мову дзяржаўнай, адчыніўшы гэтым новую старонку ў гісторыі адраджэньня Беларусі. Закон будзе ўведзены ў дзеяньне 1 верасьня 1990 году.

### 100-ТЫСЯЧНАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў МЕНСКУ

У нядзелю 25 лютага ў Менску ля Дому ўраду дэманстранты дамагаліся тэрміновай адстаўкі ўраду і ЦК кампартыі БССР, каб не дайшло да выбуху. Мітынг быў скліканы Беларускім Народным Фронтам. Прамаўлялі прадстаўнікі БНФ і саюзаў: сялянскага, каапэратараў, экалягічнага, Т-ва Бел. Мовы, АН БССР. Адбыўся паход да Дзяржтэлерадыё, дзе дэманстранты дамагліся, каб далейшая частка мітынгу трансьлявалася беспасярэдня ў эфір. Заходнія газэты паедамілі пра менскую дэманстрацыю, якая пасьля маскоўскай была найбольшай.

### КУРАПАТЫ: «НІВОДНАГА КАНКРЭТНАГА ПРОЗЬВІШЧА»

Карэспандэнту БЕЛТА Я. Гарэліку пракурор БССР Тарнаўскі, які быў намесьнікам старшыні ўрадавай камісіі, што расьсьледавала злачынствы ў Курапатах, сказаў («Зьвязда», 2.XI.89):

«На вялікі жаль, даведаўшыся пра тысячы прозьвішчаў бязьвінна рэпрэсіяваных, прасачыўшы крок за крокам іх горкі і трагічны лёс, мы, на жаль, ня можам назваць ніводнага канкрэтнага імя».

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў АБАРОНУ МОВЫ

25 студзеня ў Менску напярэдадні сэсіі Вярхоўнага Савету БССР, на якой разглядаўся законапраект аб дзяржаўным статусе беларускае мовы, адбыўся масавы мітынг, арганізаваны гарадзкой радай Таварыства Беларускае Мовы (старшыня рады — гісторык Анатоль Грыцкевіч). Актывісты ТБМ, асабліва мастакі, добра папрацавалі над арганізацыяй і афармленьнем паходу. «Такой урачыстай і ўбранай калёны, — напісаў нам адзін з удзельнікаў шэсьця, — ня было ніколі, нават і ў афіцыйных дэманстрацыях. На харугвях былі напісаныя словы аб мове зь вершаў выдатных пісьменьнікаў Беларусі, намаляваныя партрэты дзеячоў нашай культуры ад Кірылы Тураўскага і Еўфрасіньні Полацкай да дзеячоў 'Нашай Нівы' і сучасных».

Мітынг, на які зыйшлося колькі тысячаў чалавек, адбыўся ля помніка Янкі Купалы. Вялі яго сябры гарадзкой рады ТМБ Аўген Гучок і Ігар Чарняўскі. Прамаўлялі мовавед і пэдагог Пятро Садоўскі, адміністратар клюбу «Спадчына», выкладчык ВНУ Анатоль Белы, прадстаўнікі клюбу «Спадчына» Ліля Матусевіч (прачытала свой верш абДанчыку), Галіна Вашчанка і Яўген Гучок, пастар-евангеліст Эрнэст Сабіла (прачытаў малітву за Беларускі народ), праваслаўны сьвятар а. Аляксей Шынкевіч.

Кіраўнік клюбу «Спадчына» Анатоль Белы сваю прамову пачаў гэткімі словамі:

«Шаноўная грамада!

«Нашы людзі здаўна казалі аб здатных зладзеях, што такі ўкрадзе нават з-пад сучкі. Але сталінскія апрычнікі і брэжнеўскія халуі значна пераўзыйшлі гэтых местачковых зладзеяў: яны сумелі ўкрасьці... у цэлага народу проста зь яго нага роту... яго мову... Найдзеце мне й пакажэце больш адмысловых зладзеяў. Такіх вы ня знойдзеце ва ўсім белым сьвеце.

«Гэтае злачынства стаіць у адным шэрагу зь фізычным зьнішчэньнем майго народу ў шматлікіх Курапатах, перасяленьнем яго ў Сібір, на Салаўкі, у Карэлію. Але гэтае злачынства яшчэ больш вытанчанае, так як яно было разьлічана пертварыць недабітае, непераселенае, страшна запалоханае насельніцтва ў манкуртаў, пазбавіць яго гістарычнай памяці, духоўнасьці, маралі, культуры, нацыянальнай сьвядомасьці і ўрэшце асыміляваць яго.

«Ува ўсіх заканадаўствах сьвету — нагадаем рымскае права, Рускую Праўду, Статут Вялікага Княства Літоўскага, кодэкс Напалеона і інш. — злодзей павінен ня толькі вярнуць крадзёнае, але згодна закону нясе яшчэ адпаведныя выдаткі за ўчыненую шкоду, злачынства і г.д. Цяпер нам хочуць прадставіць, што прыняцьце Закону аб мовах у БССР — гэта 'далейшае праяўленьне клопатаў партыі і ўраду аб дабрабыце беларускага народу' — новы і значны крок перабудовачных працэсаў, распачатых партыяй'.

«З усёй адказнасьцю трэба заявіць на гэтым мітынгу, што тут вялікая нацяжка, вялікае жаданьне выдаць свае запозьненыя дзеяньні да праяўленьня 'чарговай' увагі да народу. На нашу думку, гэта даволі нязграбная спроба вярнуць некалі ўкрадзенае ў народу... і то ня ўсё. А дзе-ж тыя выдаткі, а на мове прававедаў — кампэнсацыі, якія павінны панесьці зладзеі за свае ўчынкі перад кожным з нас упаасобку? Іх няма».

Далей у сваёй прамове А. Белы запрапанаваў, каб у рэзалюцыі, якая будзе прынятая, было адзначана, што мэтанакіраванае пазбаўленьне беларускага народу ягонае мовы было парушэньнем ленінскіх прынцыпаў нацыянальнае палітыкі, злачынствам супраць чалавецтва ды што камуністычная партыя павінна ня толькі ўзяць на сябе маральную адказнасьць за гэтае злачынства, але й прынародна асудзіць такую ганебную практыку асыміляцыі й генацыду ды што ўрады СССР і БССР павінны знайсьці сродкі для адраджэньня беларускай мовы і паляпшэньня моўнай сытуацыі ў рэспубліцы, каб тым самым кампэнсаваць тыя страты, якія панёс наш народ па іхнай віне.

**Нью-Ёрк — Нью-Джэрзы й Канэктыкет!**

**САКАВІКОВАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ**

ў нядзелю 25.III.1990 г.
ў Нью-Брансьвіку
Па багаслужбе ў царкве Жыровіцкае Божае Маці (пачатак а 9-й гадз.)
акадэмія ў гасьцініцы
Гаят Рыджэнсы (2 Albany. St., New Brunswick, NJ)
Пачатак акадэміі а 12-й гадз.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПРА БЕЛАРУСЬ НА КАНГРЭСАВЫХ СЛУХАНЬНЯХ

У Кліўленьдзе, Агаё, адбыліся 14-15 лютага сёлета кангрэсавыя слуханьні аб падзеях у Ўсходняй Эўропе. На слуханьні быў запрошаны старшыня кліўлендзкага адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Янка Ханенка. У супрацоўніцтве з галоўнай управай БАЗА было падрыхтаванае сьветчаньне, якое прачытала на слуханьні сп-ня Ліда Ханенка. На сэсіі 14-га лютага былі тры кангрэсмэны: Мэры Роўз Оўкер (старшыня), Томас Сойэр, абое дэмакраты, Пол Гілмор, рэспубліканец, ды чалавек 200 аўдыторыі. Былі карэспандэнты друку й тэлебачаньня. Сьветчылі прадстаўнікі 16 этнічных групаў.

У беларускім сьветчаньні быў дадзены кароткі агляд апошніх падзеяў на Беларусі (Чарнобыль, Курапаты, шальмаваньне адміністрацыяй актывістаў БНФ) ды выказаныя пажаданьні: каб Кангрэс ЗША дапамог прывозіць у Амэрыку на лячэньне беларускіх дзяцей, што хварэюць у выніку чарнобыльскай радыяцыі; каб у Менску быў адчынены амэрыканскі консулят; каб у перадачы «Голасу Амэрыкі» была ўведзеная беларуская мова; каб быў наладжаны сыстэматычны культурны абмен паміж ЗША і БССР; каб у беларускую мову была перакладзеная Канстытуцыя ЗША для пашырэньня яе на Беларусі.

У беларускім сьветчаньні была выказаная таксама ўстурбаванасьць амэрыканскіх Беларусаў антыбеларускімі актамі польскіх шавіністаў на Беласточчыне.

Тэкст беларускага сьветчаньня, з далучаным да яго артыкулам др. Янкі Запрудніка з англамоўнага часапісу «Праблемы камунізму» аб нацыянальным адраджэньні сучаснай Беларусі, быў раздадзены кангрэсмэнам і прадстаўніком друку.

### ЧАРНОБЫЛЬ: УРАД БССР ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

Вярхоўны Савет і ўрад БССР прынялі 22 лютага сёлета зварот да парлямэнтаў і ўрадаў сьвету, міжнародных арганізацыяў, суайчыньнікаў за мяжой ды ўсіх людзей добрае волі прыйсьці з дапамогай Беларусі ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскае атамнае катастрофы.

### ЧАРНОБЫЛЬ: ПРА МЕНСКУЮ КЛІНІКУ НА АМЭРЫКАНСКІМ ТБ

У нядзелю 18 лютага на амэрыканскім тэлебачаньні (у Нью-Ёрку на 5-м канале, у іншых гарадох усходняе часткі ЗША на іншых каналах) была перададзеная рэлігійная праграма, зь якою ўпяршыню на савецкім тэлебачаньні напрыканцы леташняга году выступіў ведамы прапаведнік пастар др. Робэрт Шулер. Др. Шулер вяшчае штонядзелі з Гардэн-Гроўву ў Каліфорніі (The Hour of Power). Пастар Шулер гаварыў аб новай фазе прыязных дачыненьняў паміж Амэрыкай і Савецкім Саюзам ды аб існаваньні Бога. Ягоную гутарку слухалі ў СССР 200 мільёнаў тэлегледачоў, у тым ліку ўсе сябры Палітбюро, уключна з Гарбачовам і ягонай жонкай Раісай. Перадачу гэтую пабачылі й пачулі 18 лютага амэрыканскія тэлегледачы.

Др. Шулер, даючы тлумачэньні да перадачы, прачытаў тэлеграму падзякі, якую ён дастаў з Масквы і ў якой была выказаная просьба аб дапамозе ахвярам Чарнобыля, упаасобку дзіцячай клініцы ў Менску. У тэлеграме, між іншага, згадваліся шпрыцы аднаразовага ўжываньня, якіх нестае ў Савецкім Саюзе.

Пастар Робэрт Шулер заклікаў сваіх слухачоў прысылаць грошы на фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля (The Russian Fund). Далейшую інфармацыю пра гэты фонд можна дастаць, тэлефануючы на дармовы нумар: 1-800-955-9090.

### АФІЦЫЙНАЕ ПРЫЗНАНЬНЕ ХЛУСЬНІ

«Сельская газета» (7.I.90) у пераказе зьместу студзеньскага нумару часапісу «Коммунист Белоруссии» піша:

«Пасьля трагедыі на Чарнобыльскай АЭС змаганьне зь ейнымі вынікамі ў шмат чым ускладніла сакрэтнасьць. Кожны артыкул і нават малюсенькая інфармацыя не праходзілі ў друк бязь візы экспэртаў Мінатамэнэргапрому СССР. Вяртаіся яны з гэтага ведамства выпусташанымі, не адлюстроўваючы ўсяе вайстрыні палажэньня. 'Каму была выгадная гэткая лякіроўка? Ці мы гатовыя сёньня даць гэтай зьяве прынцыповую ацэну? — пытаецца журналіст А. Крыжаноўскі ў сваіх нататках 'Полюсы публічнасьці'».

Пытаньне трэба ставіць таксама й цяпер: наколькі праўдзівая і поўная сёньняшняя інфармацыя пра Чарнобыль?

### ЧАРНОБЫЛЬ

**УСІМ! УСІМ! УСІМ!**

Вецер Чарнобыля дзьме ў твар кожнага з нас. Пакутуюць дзеці. Мы зьвяртаемся да ўсіх, хто падзяляе гэты боль. Трэба безадкладна стварыць сыстэму дзейснай дапамогі. Рэальным укладам у гэтую справу будзе наш удзел у розных дабрадзейных акцыях: канцэртах, выставах, лятарэях, зьбіраньні грашовых ахвяраў сярод вашых суседзяў, супрацоўнікаў, знаёмых, шуканьні дабрадзейных тавараістваў і арганізацыяў у вашым краі пасяленьня.

Кожная ваша ахвяра будзе з удзячнасьцяй прынятая. Хворыя дзеці чакаюць на Вашую дапамогу.

**Дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля«**

Наш адрас:

СССР/Беларусь
220076, Менск
вул. Кірава, 17
Улаховіч Уладзімер
Тэл.: 29-39-82

**В. Зубкоўскі**

## *АНГЛАМОЎНАЯ БЕЛАРУСІКА 1989*

Летась было выдрукавана некалькі беларусаведных артыкулаў у розных англамоўных часапісах. Вось кароткі агляд некаторых зь іх.

У амэрыканскім часапісе «Праблемы камунізму», які выдаецца ў Вашынгтоне Інфармацыйным Агенцтвам ЗША, быў зьмешчаны артыкул **др. Янкі Запрудніка**, рэдактара газэты «Беларус», пад заг. «Беларускае Абуджэньне». У артыкуле, пасьля кароткае гістарычнае даведкі, аналізуецца палітычна-культурны стан Беларусі другое палавіны 1980-х гадоў, апісваюцца падзеі, факты й групы, якія спрычыніліся да нацыянальнага ўздыму, утварэньне гэтак званых «нефармальных» групаў, Беларускага Народнага Фронту. Упяршыню ў англамоўнай літаратуры артыкул дае шырокі абраз змаганьня за нацыянальнае адраджэньне сучаснае Беларусі ды накрасьляе магчымы ход далейшых падзеяў. У тым-жа нумары «Праблемаў камунізму» зьмешчаныя артыкулы пра апошнія падзеі ў Літве і Латвіі.

Бібліяграфічная даведка: Jan Zaprudnik. "Belorussian Reawakening". **Problems of Communism**, Washington, D.C., US Information Agency, vol. 38, July-August, 1989, pp. 36-52.

У іншым амэрыканскім пэрыёдыку, «Этнічны форум», выдрукаваны артыкул **др. Вітаўта Кіпеля** пад заг. «Беларусы ў Злучаных Штатах Амэрыкі». Аўтар разглядае прычыны масавае эміграцыі зь Беларусі, пачынаючы ад XIX ст., апісвае эміграцыйны працэс, асабліва ў дачыненьні да вызначэньня нацыянальнасьці эмігрантаў зь Беларусі, ды стан вывучэньня беларускае эміграцыі. На аснове вывучэньня друкаваных крыніцаў аўтар устанаўляе, што ў Злучаныя Штаты Амэрыкі выехала й пасялілася ад 550 да 650 тысячаў Беларусаў.

Бібліяграфічная даведка: Vitaut Kipel. "Byelorussians in the United States". **Ethnic Forum, Journal of Ethnic Studies and Ethnic Bibliography**, Kent, Ohio, Kent State University, vol. 9, nos. 1-2, 1989, pp. 75-90.

У восеньскім нумары амэрыканскага часапісу «Славянскі агляд» выдрукаванае дасьледаваньне **прафэсароў Міхала Урбана і Расэля Рыда** аб цякучасьці партыйна-адміністрацыйнае эліты ў БССР ў пэрыядзе 1966-1986 гадоў. Артыкул дае агляд партапарату ўсіх вобласьцяў, раёнаў, гарадоў і сельскіх мясцовасьцяў. Як зазначаюць дасьледнікі, у іхную камп'ютэрную сыстэму, на аснове шматлікіх крыніцаў, уведзеныя больш за тры тысячы прозьвішчаў партыйных, адміністратараў рэспубліканскага, абласнога й раённага падпарадкаваньня. Пры дапамозе ланцуговых альгебраічных вылічэньняў ды ўжываньня працэсаў Маркава зробленыя цікавыя высновы. Адна зь іх тая, што кіраўнікі Менскае вобласьці і гораду Менску маюць большыя шансы ўздымацца па службовай лесьвіцы, як кіраўнікі іншых вобласьцяў рэспублікі. Менскі абком дае большыя шансы, як Менскі гарком. А што да прасоўваньня партыйных кіраўнікоў БССР на ўсесаюзным форуме, дык ніводная група ня мае якое-небудзь перавагі.

Аўтары дасьледаваньня таксама кажуць, што ў меру таго, як у рэспубліцы зьмяншаліся ўплывы былых партызанскіх кіраўнікоў на чале з К. Мазуравам, паступова павялічаўся ўплыў партыйнага апарату зь Менску ды зь цягам часу ў кіраўнічым апараце рэспублікі вытваралася гэтак званая Менская група.

Бібліяграфічная даведка: Michael E. Urban and Russel B. Reed. "Regionalism in a Systems Perspective: Explaining Elite Circulation in a Soviet Republic". **Slavic Review**, Stanford, Stanford University/The American Assosiation for the Advancement of Slavic Studies, vol. 48, no. 3, Fall 1989, pp. 413-431.

У часапісе «Канадзкі агляд дасьледаваньняў нацыяналізму» зьмешчаны артыкул брытанскага літаратуразнаўца **праф. Арнольда Макміліна** пад заг. «Русыфікацыя і ейныя апанэнты ў сучаснай беларускай літаратуры». Праф. Макмілін аналізуе русыфікацыю беларускае навейшае літаратуры ды падкрасьляе, што ўва ўсіх пэрыядах разьвіцьця, асабліва ў савецкім часе, быў выразны супраціў гэтай русыфікацыі, адлюстраваны таксама ў шмат якіх літаратурных творах. Значная ўвага ў артыкуле адведзеная разгляду г.зв. самвыдавецкае літаратуры.

Бібліяграфічная даведка: Arnold McMillin. "Russification and its opponents in modern Byelorussian literature". **Canadian Review of Studies in Nationalism**, Published at the University of Prince Edward Island, vol. XVI, no. 1-2, 1989, pp. 133-143.

Праф. А. Макмілін апублікаваў таксама і іншы артыкул у часапісе «Швайцарская славістыка». У артыкуле пад заг. «Вехі і кірункі разьвіцьця беларускай паэзіі» аўтар разглядае беларускую паэзію ад Кірылы Тураўскага да нашых дзён, падкрасьляючы, што паэзія беларуская праз стагодзьдзі выказвала пагляды і думкі народу, аб чым трапна сказана ў адным зь вершаў Алеся Гаруна, дзе ёсьць выраз: «сам народ — пасьняр». Сучаснай паэзіі праф. Макмілін дае гэткую ацэну: «Беларуская паэзія ў ладнай меры кансэрватыўная, але філязофскімі памяшканьнямі гэтая паэзія ўвесь час паглыбляецца, тэматыка паэзіі стаецца ўсё шырэйшая. Беларуская паэзія застаецца і надалей выказьнікам нацыянальнае сьведамасьці беларускага народу».

Бібліяграфічная даведка:
Arnold McMillin, "Landmarks and Tendencies in the Development of Byelorussian Poetry," **Slavica Helvetica**, Band 33, Bern-Paris, 1989, pp. 229-247.

**Ад Рэдакцыі:** Зацікаўленых у набыцьці вышэй пералічаных артыкулаў просім зварачацца ў газэту «Беларус».

## *«ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ» НА АМЭРЫКАНСКІМ ТБ*

У нядзелю ўвечары 18 лютага на адным з галоўных каналаў амэрыканскага тэлебачаньня Сы-Бі-Эс, у папулярнай праграме «60 хвілінаў», першыя 20 хвілінаў праграмы былі прысьвечаныя вынікам чарнобыльскае атамнае катастрофы. У праграме можна было пабачыць, між іншага, сцэны з жыцьця ў Брагіне, які знаходзіцца ў радыяцыйнай зоне, а таксама была паказаная калёна дэманстрантаў у Менску, фрагмэнт шэсьця «Чарнобыльскі шлях» — чало калёны з харугвямі, вялікай «Пагоняй», бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Чарнобыльская бяда стаецца ўсё часьцейшай тэмай у амэрыканскіх сродках масавае інфармацыі.

### НЯ ПУСЬЦІЛІ Ў АМЭРЫКУ Ў АДВЕДЗІНЫ

Прыехаць зь Беларусі ў Амэрыку нават зь візытам не заўсёды проста. 22-гадовая мянчанка Ала Зубарава, дачка аўтара кніжак пра М. Багдановіча і Горкага, хацела наведаць сваякоў у ЗША, вырабіла сабе савецкія дакумэнты, купіла білет на самалёт, а амэрыканскае пасольства ў Маскве візы не дало.

 





# СІЛЫ АДРАДЖЭНЬНЯ І СУПРАЦІВУ

**Гутарка гісторыка Міколы Іванова з мастаком і адраджэнцам Аляксеем Марачкінам**

*Імя мастака Аляксея Марачкіна сёньня добра вядомае на Беларусі. Ён ня толькі адзін з найбольш уплывовых і аўтарытэтных сяброў Сойму Беларускага Народнага Фронту (БНФ), але й чалавек, які пачаў сваю «перабудову» задоўга да таго, калі ў Крамлі пачаў «гаспадарыць» Міхаіл Гарбачоў. Ён адзін з пачынальнікаў руху ў абарону роднай мовы й культуры. Ён і некалькі ягоных сяброў спрабавалі пратэставаць супраць дыскрымінацыі і дэнацыяналізацыі Беларусаў яшчэ тады, калі за гэта можна было апынуцца на лаве падсудных. У Менску яго ведаюць як шчырага Беларуса, глыбока адданага беларускай справе. Нягледзячы на занятасьць сваёй асноўнай прафэсіяй, ён заўсёды знаходзіць час для сустрэчаў зь беларускай моладзьдзю, для выступленьняў на перадвыбарчых мітынгах і сходах, для ўдзелу ў палітычных маніфэстацыях і пратэстах супраць партыйнага дыктату.*

*Гутарка зь ім беларускага гісторыка Міколы Іванова, які жыве ў Польшчы, адбылася ўвосень 1989 году. У ёй адлюстраваныя галоўныя праблемы БНФ «Адраджэньне», даецца спроба ацэнкі сучаснага стану нацыянальнай сьвядомасьці Беларусаў, а таксама аналіз пэрспэктываў далейшага разьвіцьця сытуацыі на Беларусі.*

**Мікола Іваноў:** Палітычная сытуацыя ў нашай Рэспубліцы, зрэшты, як ва ўсёй краіне, вельмі складаная. Партыйная рэакцыя не шкадуе сіл і сродкаў, каб не дапусціць рэгістрацыі БНФ «Адраджэньне». Але Фронт з кожным днём набірае сілы, растуць шэрагі ягоных прыхільнікаў. Ён ператвараецца ў сапраўды масавую народную арганізацыю, накшталт легендарнай заходнебеларускай «Грамады». Цікава, якое гістарычнае карэньне сёньняшняга беларускага адраджэньня?

**Аляксей Марачкін:** Сёньняшні адраджэнскі рух мае пэўныя аналегіі зь беларускім нацыянальным рухам пачатку нашага стагодзьдзя, які адбываўся адразу пасьля рэвалюцыі. Сёньняшняе беларускае адраджэньне грунтуецца на здабытках 20-30-х гадоў, абапіраецца на падмурак, які сягае ў далёкую даўніну, ажно да эпохі Ефрасіньні Полацкай. Адчуваньне такой зьнітаванасьці дае нам трываласьць і веру, што мы народ, які мае ўсё неабходнае, каб адрадзіцца... Але, зразумела, не ад добрага жыцьця мы дайшлі да ўсьведамленьня нашага стану, нашага адраджэньня.

**М. І.:** Галоўны аргумэнт партыйнай прапаганды сёньня заключаецца ў тым, што нібыта партыя пачала перабудову і таму надалей яна павінна заставацца вядучай палітычнай сілай савецкага грамадзтва. Пазыцыя БНФ у гэтым пытаньні якая?

**А. М.:** Камуністычная партыя распачала перабудову, але гэтая-ж партыя давяла ўвесь народ да таго, што спатрэбілася перабудова. Тут асабліва ганарыцца няма чым. Галоўнае-ж, кожны разумее, што знайшоўся рыцар аднаўленьня і адраджэньня ў асобе Міхаіла Гарбачова, які сьмела пачаў рэформу ўсяе палітычнае сыстэмы, шукаць выйсьце з крызіснай сытуацыі. І хаця Камуністычная партыя і цяпер заяўляе, што яна, і толькі яна — вядучая й накіроўваючая сіла ў аднаўленьні грамадзтва, ды вера ў яе сярод народа падарваная. Народ не забыўся пра дэкляратыўныя лёзунгі й абяцанкі «кіруючай і накіроўваючай». Дзеля гэтага, каб не захлынулася тое, што распачаў М. Гарбачоў, конча патрэбная шырокая падтрымка з боку народных масаў.

**М. І.:** У чым Вы бачыце прычыну нараджэньня масавага народнага руху ў абарону роднай мовы й культуры беларускага народу, руху, галоўная мэта якога — сувэрэнітэт і дэмакратызацыя Беларусі?



*Аляксей Марачкін у сваёй майстроўні. Здымак для вобразу К. Каліноўскага.*

**А. М.:** На сучасным этапе перабудовы неабходная сіла, якая-б кантралявала сытуацыю ў Рэспубліцы. І такой сілай зьяўляецца Беларускі Народны Фронт за перабудову «Адраджэньне». Гэта заканамерны, аб'ектыўны працэс, як і аб'ектыўна тое, што гэты рух распачаўся ў рэспубліках Прыбалтыкі, дзе даволі высокая нацыянальная і палітычная сьвядомасьць народу, там дзе народ адчуў, што сёньняшняя перабудова — гэта апошні шанец, які дае гісторыя, каб адрадзіць сябе, скінуць каляніяльныя путы аўтарытарнай дзяржавы, замешанай на сталінізме. І ў гэтай сувязі беларускі адраджэнскі рух таксама аб'ектыўны працэс. Для Беларусаў ён мае сваю асаблівасьць, сваю адметнасьць. І перш за ўсё гэта зьвязана з праблемамі экалёгіі, разьвіцьця беларускай мовы, культуры.

**М. І.:** Масавы народны рух сёньня — зьява паўсюдная. Народныя франты створаныя амаль ва ўсіх савецкіх саюзных рэспубліках, а таксама ў некаторых аўтаномных. У чым Вы бачыце спэцыфіку БНФ «Адраджэньне» на фоне іншых падобных арганізацыяў?

**А. М.:** Нацыянальнае пытаньне ў той форме, у якой існуе яно ў рэспубліках Закаўказьзя, Сярэдняй Азіі, істотна адрозьніваецца ад таго, што мы бачым на Беларусі. У нас няма прычынаў да канфліктаў, зьвязаных з аўтаноміяй ці тэрытарыяльным дзяленьнем. Праўда, бюракратам хацелася-б пасеяць недавер паміж некаторымі слаямі насельніцтва, асабліва на памежжы нашай Рэспубліцы. Я маю на ўвазе тыя чуткі, домыслы, якія датычаць літоўскага і беларускага насельніцтва. Зразумела, каб захаваць сыстэму, у якой дужа добра пачуваюць сябе рознага рангу чыноўнікі, сталіністы, яны ўсімі сіламі будуць супроцьстаяць дэмакратычным рухам, якія асабліва заявілі сябе ў Прыбалтыцы. Яны адчуваюць небясьпеку сваёй уладзе, бо суседні рух адначасна дзейнічае і на беларускае адраджэньне. Лёзунгі «За вашу і нашу волю», «Жыве Літва, жыве Беларусь» набываюць рэальную сілу і сэнс. Дэмакратычных працэсаў, якія ахапілі ўсю краіну, ужо не спыніш. Якраз пра гэта і гаварылася на асамблеі прыбалтыцкіх народных франтоў, якая праходзіла 13-14 мая гэтага году. Гэта быў форум, які распачаў новую гістарычную старонку ў жыцьці народаў Латвіі, Эстоніі, Літвы, у іхным імкненьні да рэальнага сувэрэнітэту, незалежнасьці. БНФ «Адраджэньне» ў параўнаньні з прыбалтыцкім рухам, на першы погляд, як-бы выглядае больш сьціпла. Але калі афіцыйных членаў народнага фронту сёньня налічваецца дзясяткі тысячаў, то прыхільнікаў яго, бадай, мільёны. Гэта мы адчулі на выбарах дэпутатаў у Вярхоўны Савет СССР.



*Аляксей Марачкін у часе падарожжа па Палесьсі.*

**М. І.:** БНФ, бясспрэчна, рух масавы. У яго складзе, як мне вядома, дзясяткі тысячаў чалавек. Але якія галоўныя рухаючыя сілы фронту? У чым ягоная сіла?

**А. М.:** Беларускі Народны Фронт сёньня ахоплівае шырокія слаі насельніцтва. Але найболей мае падтрымку сярод інтэлігенцыі, навуковай і творчай моладзі. Покуль што слаба ідзе гуртаваньне ў нашых вёсках. На гэта, мусіць, ёсьць свае аб'ектыўныя прычыны. Вёска і яе жыхары ў начальства, як на далоні. Актыўныя дзеяньні кожнага чалавека заўважаюцца і глушацца ўсялякімі даступнымі партакратыі спосабамі.

**М. І.:** Падчас апошніх выбараў у Вярхоўны Савет СССР пры актыўнай падтрымцы БНФ было выбрана некалькі дэпутатаў. Якую пазыцыю занялі яны ў вышэйшым заканадаўчым органе краіны? Ці выступаюць яны адкрыта ў падтрымку ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня?

**А. М.:** Адносна ўдзелу народных дэпутатаў СССР, якіх падтрымліваў БНФ, у працы зьезду, то, на маю думку, наўрад ці маюць рацыю тыя, хто ахрысьціў іх «маўчунамі». Былі сярод іх дэмакратычна радыкальна настроеныя, якія ня ўкладваліся ў рамкі «агрэсыўна-паслухмянай» большасьці і якім цяжка было прарывацца на трыбуну праз заслону Яфрэма Сакалова. Беларуская сьціпласьць дэлегатаў дала магчымасьць першаму сакратару КПБ зацугляць нашу дэлегацыю. Вандэя на ўсіх узроўнях ёсьць вандэя. Для яе страціць уладу раўназначна сьмерці, але, як было сказана на зьезьдзе, сьмяротна паранены зьвер бывае страшней іншага.

**М. І.:** А на чым, на ваш погляд, палягае прычына найбольш агрэсыўнай беларускай партыйнай рэакцыі? Чаму сёньня Беларусь ператварылася ў своеасаблівы фарпост супраціўнікаў перабудовы, у перабудовачную «Вандэю»?

Дарагія суайчыннікі!
Віншуем вас з калядамі
і Новым 1990 годам.
Жадаем усёй рэдакцыі
„Беларуса" і праз вас
усім беларусам у Амерыцы
шчасьця, здароўя,
плённай працы на карысьць
нашай маці-
Беларусі.
Жыве Беларусь!

Краязнаўча-
гістарычны клуб
„Пагоня"
г. Менск

**А. М.:** На мой погляд, тлумачэньне антыперабудовачнага характару пэўных сілаў на Беларусі трэба шукаць у нейкіх гістарычных аналягах. Як некалі беларуская шляхта здрадзіла народу і пайшла ў бок пальшчызны, так і сёньняшняя «шляхта» прадалася Маскве, ці як сёньня кажуць — цэнтру. І нягледзячы на палітыку дэцэнтралізацыі, сярод нашай «шляхты» яшчэ не выкараненая «верноподданническая» псыхалёгія — быць большым Расейцам, чым самі Расейцы. Яны гатовыя адгукнуцца на любы лёзунг ці заклік з Масквы, абы там пахвалілі, пагладзілі па галоўцы ды яшчэ і ў прыклад паставілі. У цэнтры нашы партыйныя бюракраты заўсёды знаходзілі для сябе «господина», якому служылі верай і праўдай. У рэспубліцы, на месцы, гэтае халуйства выглядае агрэсыўным цывунствам, пакорлівасьць зьмяняецца на дыктат да свайго народа, на нецярпімасьць да іншадумцаў. Іхны прынцып адзіны — ня пушчаць. Ня пушчаць, не дазваляць Беларускаму Народнаму Фронту праводзіць устаноўчы зьезд на Беларусі. Не даваць магчымасьці БНФ мецъ сваё памяшканьне, дзе-б маглі зьбірацца актывісты. Чыніць усялякія перашкоды — ня спрыяць народнаму руху ў друкаваньні ягоных дакумэнтаў і матар'ялаў устаноўчага зьезду.

**М. І.:** Беларуская эміграцыя, раськіваная па ўсім сьвеце, зь вялікай увагай і зацікаўленьнем сочыць за перабудовачнымі падзеямі на Беларусі, сочыць зь вялікай сымпатыяй да новых адраджэнцаў і зь непакоем за іхны далейшы лёс. І гэта зразумела: большасьць эмігрантаў прысьвяціла барацьбе за ідэалы беларускага адраджэньня амаль усё сваё жыцьцё. Як Вы глядзіцё ў сучасных абставінах на ўзаемаадносіны паміж эміграцыяй і беларускімі адраджэнцамі?

**А. М.:** Сёньня «Адраджэньне» выходзіць на якасна новы палітычны ўзровень. Гэта рэальны народны рух, гэта рэальная сіла, якая мае на мэце падтрымаць ідэю абнаўленьня нашага гра-

*(Працяг на б. 4-й)*

 

# СІЛЫ АДРАДЖЭНЬНЯ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

мадзтва, даць магчымасьць не захлынуцца гэтай ідэі. І тут мы адчуваем падтрымку ня толькі нашага народу, але й тых, хто зь цікавасьцю і надзеяй глядзіць на нас з-за мяжы, і ў першую чаргу нашая беларуская эміграцыя, зь якой, на вялікі жаль, пакуль што ў нас вельмі слабая сувязь. Хочацца спадзявацца, што кантакт гэты наладзіцца, і прагрэсыўная эміграцыя будзе мець магчымасьць прычыніцца да ўдзелу ў адраджэньні беларускага народу. Калі гаварыць пра Беларусаў у Польшчы, то тут ёсьць пэўныя традыцыі. Назапашаны вопыт культурніцкага абмену дае свой плён.

**М. І.:** І на заканчэньне хацелася-б папытацца ў Вас аб пэрспэктывах разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху на Бацькаўшчыне. Ведаю, што прагнозы рабіць вельмі цяжка і небясьпечна, але паспрабуйце.

**А. М.:** Рабіць нейкія высновы, як у далейшым будзе разьвівацца наш рух, справа даволі складаная, бо, як кажуць, усё ўжо было. І ніхто не застрахаваны, што ў краіне можа вытварыцца зусім другая сытуацыя. Можа зьмяніцца палітычны клімат. Але гэта раўназначна трагедыі. Да ўлады тады можа прыйсьці самая арганізаваная частка насельніцтва — армія, а гэта — ваенны пераварот. Ужо сёньня насьцярожвае той факт, што ў рэспубліцы ідзе фармаваньне рабочых атрадаў, якія прызваныя садзейнічаць міліцыі ў навядзеньні парадку. Фактычна гэта падрыхтоўка прафэсіяналаў-баявікоў, якія «рукамі народа» будуць расправіцца ня толькі з парушальнікамі парадку. А гэта ўжо крок да грамадзянскай вайны. 30 кастрычніка 1988 году многія з нас адчулі дзеяньні ня толькі міліцыі, але й дзеяньні спэцыяльна выдзеленых атрадаў рабочых.

І ўсё-ж усе мы глядзім на будучыню з надзеяй. Прыйшоў час адраджэньня. Калі не цяпер, то ніколі.

**М. І.:** Дзякуй за размову і дазвольце пажадаць далейшых посьпехаў Беларускаму Народнаму Фронту «Адраджэньне» ў ягонай вельмі патрэбнай і карыснай дзейнасьці.

**А. М.:** Дзякуй і да пабачэньня.

### *БЕЛАРУСКАЯ СТАРОНКА Ў ЛІТОЎСКАЙ ГАЗЭЦЕ*

Літоўская віленская газэта «Летувас рытас» за 18 студзеня сёлета выйшла зь беларускай старонкай пад заг. «Пагоня». Старонку падрыхтавалі сябры віленскага Таварыства Беларускай Культуры. Зьмест першага выпуску: заклік да Беларусаў Літвы берагчы сваю мову й патрабаваць беларускіх школаў; інфармацыя пра беларускія нацыянальныя згуртаваньні паза межамі СССР, у тым ліку пра БАЗА; уражаньні ад канцэрту Данчыка ў Вільні («канцэрт нясумненна паспрыяў мацнейшаму згуртаваньню нашых суайчыньнікаў»); інфармацыя пра дзейнасьць Таварыства Беларускай Культуры і суполкі «Сябрына» ў Вільні.

«Пагоня» ў газэце «Летувас рытас», пры належным падтрыманьні збоку, можа стацца прадвесьнікам беларускай газэты ў Літве, дзе жыве 60 тысячаў Беларусаў.

### БЕЛАРУСЫ-КАНДЫДАТЫ Ў ЛІТОЎСКІ ПАРЛЯМАНТ

Выбары ў Вярхоўную раду (Савет) Літоўскай ССР адбыліся 24 лютага. У інтэрв'ю Маскоўскаму радыё (8.ІІ) карэспандэнт Елена Куркляйціте сказала:

«Паводля нацыянальнасьці склад кандыдатаў гэткі: Літоўцаў 425, Расейцаў 32, Палякоў 30, Беларусаў 8, Гэбрэяў 3».

## СЫНОД БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

На пачатку лютага 1990 году архірэйскі сабор Расейскай Праваслаўнай Царквы стварыў Сынод Беларускага экзархату Маскоўскага патрыярхату, назваўшы яго Беларускай Праваслаўнай Царквой. Першае паседжаньне Сыноду БПЦ адбылося ў Менску 6 лютага. Мітрапаліт Менскі й Горадзенскі Філарэт, патрыяршы экзарх Беларусі, у гутарцы з карэспандэнтам ТАСС назваў пастанову сабору РПЦ «гістарычнай» і сказаў, што рэалізацыя яе «прывядзе царкоўнае жыцьцё да большае самастойнасьці і лепшага ўладжаньня згодна з традыцыямі, уласьцівымі міранам і кліру Беларусі».

### АБ'ЯДНАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ

20 студзеня сёлета ў Рызе адбылася канфэрэнцыя Беларусаў Латвіі, арганізаваная таварыствамі «Сьвітанак» і «Раніца». На канфэрэнцыю прыбылі дэлегаты із шмат якіх раёнаў Латвіі, дзе Беларусаў налічваецца каля 120 тысячаў.

Паводля расейскамоўнага латыскага выданьня «Атмода» (5.ІІ) «канфэрэнцыя паклала пачатак працэсу фармаваньня нацыянальна-культурнай аўтаноміі Беларусаў Латвіі». З гэтай мэтаю створаная канфэдэрацыя беларускіх таварыстваў, дзейнасьць якіх будзе каардынаваць Рада».

На канфэрэнцыі быў прыняты зварот да Рады Міністраў Латвіі, у якім абгрунтаваная патрэба выдаваньня ў рэспубліцы беларускага штатыднёвіка і ўвядзеньня на радыё 15-хвілінных беларускамоўных перадачаў.

Канфэрэнцыя зьвярнулася з заклікам да М. Гарбачова, каб ён асабіста паспрыяў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскае катастрофы.

У звароце да выбаршчыкаў на Беларусі ўдзельнікі канфэрэнцыі заклікалі іх аддаць свае галасы за прадстаўнікоў Таварыства Беларускае Мовы, Беларускага Экалягічнага Саюзу і Беларускага Народнага Фронту.

### *УЦЕКАЧЫ Ў МЕНСКУ*

У Менску ў студзені сёлета налічвалася больш за 260 асобаў — Беларусаў, Украінцаў, Расейцаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў — што ўцяклі з Баку, сталіцы Азэрбайджану, дзе ім пагражала сьмерць. Менскія ўлады маюць праблему з разьмяшчэньнем уцекачоў. Цяжкасьці ўскладняюцца тым, што заканадаўства нічога ня кажа пра статус уцекача. «Тымчасам ня ясна, — піша менская газэта «Знамя юности» (31.І), — як і дзе працаўладкаваць і разьмяшчаць уцекачоў, як быць з выплатай пэнсіяў».

### БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА Ў ЭСТОНІІ

«Грунвальд» — гэтак назвалі талінскія Беларусы сваю новую газэту, што будзе выходзіць двойчы на месяц. Першы нумар «Грунвальду» датаваны студзенем 1990 году. Рэдагуе новае выданьне, орган Беларускага Культурнага Таварыства «Грунвальд», Валеры Чыжык.

У першым нумары зьмешчаныя: артыкул Зянона Пазьняка «Насуперак руху — 'вандэя'», выбарчая плятформа БНФ, артыкул Вінцука Вячоркі да гісторыі беларускага нацыянальнага сьцягу, артыкул Міколы Іванова пра беларускую эміграцыю й нацыянальнае пытаньне, зварот да Беларусаў Эстоніі, тэкст закону «Эстонская ССР аб нацыянальных правох грамадзянаў рэспублікі», а таксама факсыміле ліста БАЗА да Сойму БНФ у справе дапамогі ахвярам Чарнобыля ды іншыя матар'ялы.

Адрас выданьня: 200090 Эстонія, Талін, Аб. скр. 3290.

## *ДАНЧЫК ПАКІНУЎ ПА САБЕ НЯ ТОЛЬКІ ПЕСЬНІ*

Друк БССР працягвае пісаць пра фэномэн Данчыка — амэрыканскага Беларуса, які гаворыць чысьцейшай беларушчынай, як ураджэнцы Беларусі. «Настаўніцкая газэта» (24.І.90) у рубрыцы «Што страцілі, што шукаем» зьмясьціла артыкул У. Пучынскага пад заг. «Сьвет Амэрыканца Данчыка». У ім чытаем:

«А зачароўвала слухачоў ня толькі песьня (Данчыка), але і слвоа. Маўленьне. Мяккасьць мовы, слоў, зычных гукаў, напеўнасьць. Мы чулі мову, якой яна была тады, калі яе носьбітаў было болей, чым зараз, і яны вучыліся не па падручніках, кнігах, у якіх 'як чуецца, так і пішацца', а 'як пішацца, так і гаворыцца'. Мы ўжо прывыклі да вымаўленьня слоў, 'снег', 'песня', 'радасць' такім-жа чынам, як вымаўляем 'Ну, чаго табе?', хаця гэта — такія прыгожыя словы 'сьнег', 'песьня', 'радасьць', 'бабця'. Данчыкавы словы заражаюць. Пачынаеш скарыстоўваць іх! Зрэшты, вучыцца-ж нам трэба ўсім разам — ад тых-жа бабцяў і прабабцяў якія яшчэ памятаюць, ведаюць, як больш правільна гаварыць пабеларуску».



### BYELORUSSIAN REVIEW

Выйшла ужо пяць нумароў інфармацыйнага англамоўнага квартальніка Byelorussian Review (Беларускі агляд). Гэта зьмястоўная і вельмі інфарматыўная публікацыя, з добрай графікай і ўмелым рэдагаваньнем. Выданьне гэтае выконвае нязвычайна важную функцыю інфармаваньня англамоўнага чытача-чужынца і маладых Амэрыканцаў, Брытанцаў, Канадыйцаў, Аўстралійцаў беларускага паходжаньня.

Чытачы «Беларуса» павінны патурбавацца, каб «Беларускі Агляд» быў ува ўсіх важнейшых бібліятэках ды каб на яго падпісвалася маладое пакаленьне беларускае эміграцыі ў англамоўных краёх (падпісная плата: 15 даляраў на год).

«Беларускі Агляд» вылікаў шмат прыхільных водгукаў, і ён заслугоўвае на ўсякае падтрыманьне. Адрас:

BYELRUSSIAN REVIEW
P.O. Box 10353
Torrance, CA 90505

## ГОЛАС «ПРАВАСЛАУНАИ ДУМКІ»

У Менску выйшлі летась тры нумары самвыдавецкага часапісу «Праваслаўная Думка» (наклад 10 тыс. паасобнікаў, кожны нумар мае 8 старонак малога фармату). У часапісе падаюцца навіны з царкоўнага жыцьця, друкуюцца атыкулы на рэлігійныя тэмы, паэзія, сьпевы.

Як сказана ў часапісе, ён «не зьяўляецца органам афіцыйных царкоўных уладаў і адлюстроўвае думку незалежнае рэдакцыі». Часапіс выдаецца коштам рэдактара і рассылаецца бясплатна. Адрас выданьня, на жаль, не пададзены.

Зьяўленьне часапісу, чытаем у 2-м нумары, «выклікала шырокае зацікаўленьне ў нашай грамадзкасьці і за мяжой».

У 3-м нумары «ПД» рэдактар піша:

«Перачытаўшы гэты нумар, прадбачу крытыку як справа, так і зьлева. Людзі, якія падрыхтавалі матар'ялы ў нумар, стаяць на розных пазыцыях, парознаму думаюць; але яднае іх вера ў наша ўратаваньне праз Хрыста, у адраджэньне роднай Беларусі!

«Ня зьдзіўляйся, шаноўны чытач, калі ў папярэдніх нумарох ты бачыў 'Спадар', у гэтым 'Гасподзь'. На Украіне рэлігійную тэрміналёгію распрацавалі ўкраінскія ўніяты. На Беларусі — ніхто. Ніводны пераклад Новага Запавету з тых, што дасюль зроблены, ня можа выкарыстоўвацца ў Набажэнстве. Не бласлаўляў-бы тады Папа Рымскі ксяндза Чарняўскага, а Філарэт, Мітрапаліт Менскі і Горадзенскі, Патрыяршы Экзарх Беларусі, перакладчыка В. Сёмуху зрабіць новы пераклад Новага Запавету на беларускую мову.

І ўсёж-такі: анёл ці ангел, катэдра ці кафэдра? Мы лічым, што анёл, і ангел — словы беларускія, і нікому не дадзім, ні Паляком, і ні Рускім, забрацьіх у нас. Праваслаўныя Беларусы ўжывалі слова 'ангел'. Беларусы-каталікі — 'анёл'. І так далей.

«Супрацоўнікі рэдакцыі моляцца, каб Гасподзь даў табе, дарагі чытач, духоўнай чысьціні, вызваленьня ад клопатаў сёньняшнага тлумнага жыцьця, умацаваньня веры».

«Праваслаўныя Беларусы, ратуйце Радзіму!

«Дапамажы Вам Гасподзь!»

### ХВОРАЯ МЯНЧАНКА Ў ЗША ПАТРАБУЕ ДАПАМОГІ

32-гадовая Вольга Цукурава на 15-м годзе невылячальнае для савецкае мэдыцыны хваробы (тумар правае нагі) прыехала 21 кастрычніка летась лячыцца ў Злучаныя Штаты, спадзяючыся, што добрыя людзі дапамогуць ёй грашыма. У Вольгі тут няма ніякіх сваякоў, яе запрасіў прыбыць у Амэрыку выпадковы чалавек, які быў у Менску на мэдычнай канфэрэнцыі. Вольга Цукурава — таксама лекар, выпускнік менскае мэдычнае школы. Праваслаўная Царква дапамагла ёй прыехаць у Злучаныя Штаты. Заапекаваўся Вольгай дабрадзейны клюб ў гор. Садбуры ў штаце Масачусэтс, заснаваўшы адмысловы фонд дапамогі.

На лячэньне патрабуюцца тысячы даляраў, толькі пратэза нагі будзе каштаваць да 15 тыс. даляраў. Пра мянчанку Вольгу Цукураву і ейнае адважнае і адчайнае змаганьне з хваробай пісалі газэты Sudbury Town Crier (30.XI), The Boston Herald (1.XII), а таксама ньюёркскае «Новое Русское Слово» (20.XII).

З заклікам аб дапамозе Вольга зьвярнулася да сваіх суродзічаў праз газэту «Беларус». Падаючы пра гэты выпадак, мы заклікаем нашых чытачоў пасьлаць на дапамогу Олі хто колькі можа — гэта ёй будзе і матар'яльным і маральным падтрыманьнем. Чэкі выпісвайце на:

The Olga Tsukurova Fund
c/o Sudbury/Wayland Lions Club
P.O. Box 80
Sudbury, Ma 01776

Калі-б хто жадаў даведацца больш пра гэты выпадак ад самое Вольгі Цукуравай, можаце тэлефанаваць на нумар: (617) 232-5792 c/o Oleg Pomerantzeff, 50 Davis Ave., Brookline MA 02146.

# СЬВ. ПАМ. НАТАЛЬЛЯ ОРСА



### НЯЎЖО ТУДЫ Я НЕ ВЯРНУСЯ?

*Няўжо туды я не вярнуся,*
*Дзе промень першы я спаткала*
*І дзе ў час жніваў на снапкох*
*Мне матка песьню напявала?*

*Няўжо туды я не вярнуся,*
*Дзе Нёман плаўна гоніць хвалі*
*І дзе дзяўчаты да зары*
*Прасторы песьняй напаўнялі?*

*Няўжо туды я не вярнуся,*
*Дзе бор адвечну байку бае*
*І дзе Міндоўгавы муры*
*Так горда ў неба высь сягалі?*

*Ах, не! К табе ўжо не вярнуся,*
*Мая каханая Краіна;*
*Душой і сэрцам к табе рвуся,*
*Ды сябру дзён маіх ня кіну.*

*Мой мілы друг, чакай, прыйду*
*Ў тваю гасподу із граніту;*
*тады ўжо разам, як калісь,*
*Пра родны Край мы будзем сьніці.*

*Мой родны Край, даруй ты мне*
*Маё сардэчнае прызнаньне —*
*Расьці, красуй, плён добры дай,*
*Сыны чужынцаў каб прагналі.*

*Ах, цяжка мне, што больш к Табе*
*Ужо ніколі не вярнуся,*
*Мой родны Кут, мой мілы Люд,*
*Хоць ўсёй істотай к Табе рвуся.*

Да гэтага верша-споведзі Натальлі Орса кампазытар Эльза Зубковіч напісала музыку.

20 студзеня 1990 году Беларусы Нью-Ёрку, Нью-Джэрзы й далейшых ваколіцаў разьвіталіся з адной із сваіх найстарэйшых сябровак, заслужанай працаўніцай-пэдагогам сьв. пам. Натальляй Орса. У царкве Жыровіцкай Божай Маці у Гайленд-Парку а. Васіль Андрэюк адслужыў сьв. літургію і паніхіду. Над магілай разьвітальнае слова сказаў старшыня БАЗА сп. Антон Шукелайць. На памінальным абедзе, пры вялікай грамадзе ўдзельнікаў памінак, прамаўлялі былыя вучні й пэдагогі-супрацоўнікі нябожчыцы.

Др. Язэп Сажыч, старшыня Рады БНР, які таксама некалі быў вучнем сьв. пам. Натальлі Орса, падкрэсьліў ейныя заслугі ў гісторыі беларускага руху і з задаваленьнем адзначыў, што ейнае месца на беларускай ніве годна заняла ейная дачка, др. Ала Орса-Рамана.

Сп Міхась Тулейка, старшыня нью-джэрзыйскага адзьдзелу БАЗА, у сваёй прамове сказаў:

«Сьветлай памяці Натальля Орса была нязвычайнай асобай. Вялікую частку свайго жыцьця, яна аддала службе Беларускаму народу, галоўна шырэньню беларускай культуры. Ад раньняй маладосьці брала актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным руху. Калі атрымала кваліфікацыю настаўніцы, ад таго часу вучыла беларускую моладзь на Бацькаўшчыне, а па другой сусьветнай вайне — на чужыне, у Беларускай Гімназіі ў Нямеччыне, а потым у Нью-Ёрку. Я меў шчасьце блізка назіраць выкладаньне беларускай мовы й літаратуры, якое вяла сьв. пам. Натальля Орса ў Беларускай школе ў Нью-Ёрку ў 1960-х гадох. Гэта была выдатная нагода нашай моладзі пазнаць сваю родную мову, а сп-ні Орса аказаць ім усю сваю дапамогу. Не адбылася ніводная імпрэза ў Нью-Ёрку бяз удзелу сьв. пам. Н. Орса. Амаль заўсёды гэта праяўлялася ў выступленьнях ейных дачок Галіны й Алы, а таксама ейных вучняў. Яе заслугі перад Беларускім народам, бязумоўна, вялікія і вартыя глыбейшага дасьледаваньня й апублікаваньня. Яе дзейнасьць была часткай нашай гісторыі й намаганьня, каб ЖЫЛА БЕЛАРУСЬ!»

Адзін з даўных сяброў сям'і Орсаў сп. Уладзімер Русак падзяліўся сваім успамінам пра ягонае супрацоўніцтва са сьв. пам. Аляксандрам і Натальляй Орсамі, пачынаючы ад 1949 году, калі на кватэры Орсаў былі адзначаныя першыя ў Нью-Ёрку ўгодкі Слуцкага паўстаньня. Словы на помніку Ал. Орсы «Змагару за волю Беларусі», сказаў прамоўца, гэтулькі-ж адносяцца і да ягонае вернае спадарожніцы жыцьця.

Сп-ня Галіна Русак прыгадала, што нябожчыца ня толькі была ейнай настаўніцай, але і ў далейшым шляхі іхныя сустракаліся: разам выяжджалі з Бацькаўшчыны, разам спаткалі першы новы год у Амэрыцы на кватэры ў Орсаў у Нью-Ёрку. Сям'я Орсаў, сказала сп-ня Русак, у сваім жыцьці й патрыятычнай працы адлюстроўвала дух гістарычнага Навагрудку.

Прамаўляў таксама др. Вітаўт Кіпель (прамову ягоную глядзі асобна).

Сп. Антон Шукелайць падзяліўся ўспамінам з часоў свае працы разам зь нябожчыцай у Беларускай сыботняй школе ў Нью-Ёрку, у якой Н. Орса самаахвярна працавала. На ўшанаваньне ейных заслугаў сп. Шукелайць запрапанаваў перавыдаць Беларускую граматыку Браніслава Тарашкевіча і прысьвяціць гэтую публікацыю сьв. пам. Натальлі Орса.

З прыгожай прамовай выступіла сп-чна Ларыса Курыла, былая вучаніца нябожчыцы зь Беларускае школы у Брукліне пры царкве сьв. Кірылы Тураўскага. Гэныя дні засталіся ў памяці Ларысы як вельмі прыемны і карысна праведзены час, калі ў Беларускай школе вывучалася граматыка, знакі прыпынку, але найважнейшае што школа дала, сказала былая вучаніца нябожчыцы, гэта мяккі знак у вымаўленьні, на які настаўніца-Орса зварачала вялікую ўвагу, і не дарма, бо дзякуючы мяккаму знаку беларуская мова гучыць так прыгожа.

Усім удзельнікам памінальнае бяседы дзякавала дачка нябожчыцы Ала (Алюньця). Яна сказала, што хоць яна і апошняя ў сям'і Орсаў, але такі шматлікі удзел людзей у пахаваньні і такія шчырыя словы спачуваньня й ацэны працы ейных бацькоў паказалі ёй, што бацькі ёй пакінулі вялікую беларускую сям'ю. Хоць маці й адыйшла з гэтага сьвету, сказала др. Ала, але яна не памерла, яна ёсьць у кожным з тых, зь кім яна супрацоўнічала, мела дачыненьне як настаўніца. Яна засталася жыць у людзях.

У гэтым, можна, і ёсьць няўміручасьць чалавека, калі ён, аддаўшы сябе іншым людзям, жыве ў іх далей.

**Я. З.**



*Натальля Орса з вучнямі Беларускай сыботняй школы ў Нью-Ёрку. 1960-я гады.*

# У ПАМЯЦЬ НАСТАЎНІЦЫ

У маёй памяці з прозьвішчам Орсаў зьвязаныя дырэктар Аляксандар Орса, вучнем якога я быў год у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, і, як мы вучні казалі, Орсіха, у якой я ніколі ня вучыўся, але ўплывы ейныя адчуў яшчэ бывшы вучнем. Калі ўспамінаю тыя далёкія гады, 1945-48, узнаўляюцца шмат якія згадкі аб настаўніках. Аб нябожчыцы добра аднаўляецца ў памяці ейная строгасьць, імкненьне да «жалезнае дысцыпліны», штó вучню не заўсёды падабалася, асабліва калі ён дзеля паводзінаў даставаў незадавальняючую адзнаку (мне з маім блізкім сябрам давялося гэткае перажыць!). Аб дырэктару-ж прыпамінаецца ягоны бацькоўскі падыход ды шчырае-шчырае імкненьне пераканаць вучня, каб той пайшоў далей вучыцца ў «высокую школу».

Аднак была і супольная ў настаўнікаў-Орсаў рыса, дзякуючы якой яны зрабілі ўплыў на ўсіх, хто прайшоў празь «іх рукі» ці то на Бацькаўшчыне, ці ў Заходняй Нямеччыне, ці ў Злучаных Штатах Амэрыкі. А гэта — іхная адданасьць беларускай справе, найцяжэйшай і найбольш адказнай дзялянцы нацыянальнага руху — узгадаваньню нацыянальных беларускіх кадраў. З усіх галінаў грамадзка-палітычнае дзейнасьці — а Орсы, Натальля і Аляксандар, пакінулі свой сьлед у шмат якіх дзялянках нацыянальнага руху — найбольш свае энэргіі і душы яны ўклалі ў выхаваньне маладога пакаленьня. Настаўнікі-Орсы выбралі гэты адрэзак працы, бо яны вельмі рана добра ўсьведамілі, што зарука адбудовы нацыянальнае беларускае дзяржавы — гэта кадры, адукаваныя людзі. І сваёй працай ды асабістым прыкладам яны прышчаплялі вучням працавітасьць, адданасьць нацыянальным ідэалам, цьвёрдую веру і аптымізм. У іх гэта было спалучана з высокай пэдагагічнай кваліфікацыяй, у выпадку дырэктара — навучаньне прыродаведы, а ў сьв. пам. Натальлі Орса — навучаньне мовы. Шлях гэтых беларускіх настаўнікаў быў нялёгкі, але быў гэта выдатна пройдзены шлях. Ім удалося прышчапіць сур'ёзны падыход да нацыянальнае справы сотням, а мо й тысячам вучняў. Аляксандру Орсу давялося менш працаваць з вучнямі ў Амэрыцы — ён ранавата адыйшоў у лепшы сьвет, але настаўніца Натальля Орса мае на сваім працоўным концы дзесяткі маладых Беларусаў-Амэрыканцаў, якія сёньня і беларускай мовай валодаюць, і маюць фундамэнт беларускае нацыянальнае ідэі. У гісторыі беларускага нацыянальнага руху, у галіне падрыхтоўваньня кадраў гэтага руху, настаўнікам Натальлі і Аляксандру Орсам належыць выдатнае месца.

**В. Кіпель**



*Настаўнікі Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхэльсдорфе ў Зах. Нямеччыне. Пярэдні рад (зьлева) Аўген Кахаnоўскі (Калубовіч), Натальля Орса, Іван Муха, Аляксандар Орса, Натальля Арсеньнева (Кушаль), Мікалай Пагарэльскі (Рагажэцкі); ззаду (зьлева): Аляксандар Акановіч, Франьцішак Кушаль, Гіпаліт Паланевіч. 1948 год.*

## ВЫСТАЎКА

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры ў нядзелю 11 сакавіка 1990 г. адчыніцца (а гадз. 3-й папаўдні) выстаўка твораў беларуска-амэрыканскіх і замежных мастакоў і вырабаў народных умельцаў.

**Беларускі Мастацкі Клюб у Нью-Джэрзы**

## У ПАМЯЦЬ НАТАЛЬЛІ ОРСА

Склалі ахвяры на выданьне ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва, прысьвечанае сьв. пам. Натальлі Орса, Беларускае граматыкі Браніслава Тарашкевіча.

В. Тумаш — 100 дал., П. і Н. Орса — 100, Л. і М. Стагановіч — 75, В. Заморская — 50, В. і З. Кіпель — 50, П. Мельяновіч — 50, Г. Бахар — 50, У. і Н. Русак — 50, Я. Запруднік — 50, Л. і С. Гутырчык — 50, В. і С. Рагалевіч — 30, О. і М. Тулейка — 25, Балкоўскія — 20, М. і П. Кажура — 20, Н. і В. Стома — 20, Ю. і Л. Кіпель — 20, Я. Сажыч — 20, Ф. і В. Бартуль — 20, В. і А. Дубяга — 15.

*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## ДЖ. ФЛЁРЫЁ — ГУБЭРНАТАРАМ

Удзельнікі выбарчай кампаніі «Беларусы за Флёрыё» ўзялі ўдзел 16 студзеня ўва ўрачыстасьцях інаўгурацыі новага губэрнатара штату Нью-Джэрзы Джыма Флёрыё. У парадзе ў гонар новага галавы штату на вуліцах сталічнага Трэнтану ішла з плякатам «Беларусь» і беларуская дэлегацыя, якую публіка вітала частымі воплескамі.

## КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА

У Беларускім цэнтры ў Гайленд-Парку ў нядзелю 28 студзеня адбылася ўрачыстасьць ялінкі для дзяцей. Сьвята пачаў малітваю настаяцель парафіі Жыровіцкай Божай Маці а. прат. Васіль Андрэюк. Ён выказаў задаваленьне, што бацькі надаюць шмат увагі, каб дзеці наведвалі царкву ды пераймалі нашыя традыцыі. Шкада, што дзеля хадзячага тут грыпу ня ўсе дзеці змаглі прыбыць на сваё сьвята. Быў на ім традыцыйны Дзед Мароз з падарункамі. Але падарункаў ён так-сабе не раздаваў, а вымагаў ад кожнага малога нейкага мастацкага выступу. І на нашу радасьць усе дзеці былі добра падрыхтаваныя. Яны сьпявалі, дэклямавалі вершы, гралі на інструмэнтах. Адзін толькі маленькі Эван нічога не паказаў, але ён вельмі добра трымаўся і зусім ня плакаў.

Ялінка і прыняцьце былі наладжаныя стараньнямі сп-няў Г. Русак, О. Андрэюк, А. Лук'янчык, А. Дубяга ды сп. Я. Сапежынскага.

**В. Р.**



*Айцец В. Андрэюк і сп-ня А. Кажура з удзельнікамі каляднай ялінкі вакол Дзеда Мароза.*

*З жыцьця ў Лёндане*

## ЮЗЭФ МАЦКЕВІЧ І БЕЛАРУСЫ

У праграме 24-га акадэмічнага году Англа-Беларускага Таварыства ў Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны др. Ц. Семашка прачытаў 18 студзеня лекцыю на тэму «Адносіны Юзэфа Мацкевіча да Беларусі».

Адкрываючы лекцыю, старшыня АБТ праф. Джэймс Дынглі адзначыў вялікія неспадзяваныя зьмены ў Цэнтральнай Эўропе — працэс мірнай дэмакратызацыі, які аднак ня ўсюды прайшоў без праліцьця крыві. Румынскаму народу, нажаль, давялося заплаціць вялікімі ахвярамі сваіх грамадзянаў. Памяць іх была ўшанаваная хвілінай цішыні.

Лекцыя др. Семашкі была прысьвечаная выдатнаму польскаму пісьменьніку й публіцысту, які шмат дзе станавіўся на бок Беларусаў, бараніў іхнае імкненьне да самастойнасьці, крытыкаваў польскае асадніцтва, якое каланізавала адміністраваную Польшчай Заходнюю Беларусь. Шмат дзе ў сваіх творах пісьменьнік Мацкевіч падаваў поўнасьцяй пабеларуску выказваньні Беларусаў аб польскім рэжыме на Беларусі. **А. Здановіч**

## АРХІЕПІСКАП ПАПЦ САВА БЛАСЛАВІЎ «ФОС»

Беларускі праваслаўны часапіс «Фос» (сьвятло), што пачаў выходзіць як самвыдавецкая публікацыя ў Польшчы ў канцы 1988 году, у сьнежні летась дастаў блаславеньне ад Архіепіскапа ПАПЦ Савы. «Фос» будзе далей выходзіць як двумесячнік. З матар'ялаў сьвежага шостага нумару заслугоўвае на ўвагу артыкул Антона Мірановіча пра станаўленьне беларускае сьвядомасьці праваслаўнага жыхарства Беласточчыны.

«Фос» рэдагуюць два маладыя сэмінарысты Юрка Асеньнік і Мікола Сахарэвіч. Іхная праца вартая падтрыманьня.

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## ПРА ДАНЧЫКАВА ПАДАРОЖЖА

Зь ініцыятывы ўправы ньюёркскага адздзелу БАЗА 17-га лютага адбылася сустрэча з Данчыкам і ягонай маці сп-няй Юляй Андрусышынай. Ньюёркаўцы даведаліся ад Данчыка і ягонае мамы пра іхнае падарожжа на Беларусь, пабачылі відэазапіс некаторых Данчыкавых канцэртаў, паслухалі вершы беларускіх паэтаў (В. Жуковіча, Р. Барадуліна, С. Грахоўскага, С. Сокалава-Воюша) прысьвечаныя Данчыку. Былі прачытаныя таксама ўрыўкі зь безьлічы друкаваных і рукапісных водгукаў на іхнае падарожжа, якое выклікала энтузіястычна-прыхільнае рэха ў вялікай колькасьці суродзічаў. Аўтары шмат якіх лістоў выказваюць падзяку бацьком і бабці Данчыка, сп-ні Яніне КахаНоўскай, за пераданьне сыну і ўнуку чыстае беларускае мовы й любасьці да Беларусі.

У часе свайго побыту ў Менску Данчык запісаў на Беларускім радыё калыханку ў суправаджэньні аркестры. Цяпер гэтая песьня выконваецца па радыё штавечару перад тым як дзеці ідуць спаць.

Данчык наладзіў сувязі зь беларускімі кампазытарамі й паэтамі, вынікам чаго, напэўна, будуць новыя песьні.

Сустрэча закончылася пачастункам.

## ПАНІХІДА ПА АХВЯРАХ СТАЛІНІЗМУ

У Фундацыі імя П. Крэчэўскага а. Карп Стар адслужыў 17 лютага паніхіду па тых, што былі расстраляныя ў Курапацкім лесе і па ўсіх ахвярах сталінізму. У сваёй казані а. Карп гаварыў аб збаўленнай карысьці малітвы.

*Просьба Рэдакцыі:* ***Хто мае граматыку Тарашкевіча 1929 году выданьня?***

# ПАМЯЦІ ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

14 лютага 1990 году споўніўся адзін год, як на 87-м годзе жыцьця памёр былы Старшыня рады Беларускай Народнай Рэспублікі др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Апошні дзень свайго жыцьця на шпітальным ложку нябожчык трызьніў, як ён «арганізаваў» вялікі сход, на які — паясьняў паангельску сваім канадзкім прыяцелям, што прышлі яго адведаць — зьедуцца ня толькі Беларусы, але й прадстаўнікі канадзкага ўраду і ўстановаў. Усьцяж пасылаў мяне даведацца, ці ўжо зьбіраюцца людзі... У хвілінах большай прытомнасьці бачыў, што ляжыць у ложку, пытаўся:

— Дзе мы?

— У шпіталі, Вінцук, — адказвала.

— Ці прынесла мне касьцюм? — дапытваўся. — Мы мусім з табою быць на сходзе! У апошнія часіны пра сход ужо не ўспамінаў, толькі бачыў перад сабою «вялікі бел-чырвона-белы сьцяг»...

Можа гэта дух ягоны глядзеў у будучыню й бачыў тысячныя дэманстрацыі й бел-чырвона-белыя сьцягі на плошчы Свабоды ў Менску?..

На пачатку 1968 году — году залатога юбілею БНР — у заклiку да «Суродзічаў Беларусаў», апублікаваным у «Вестках з Канады» ў «Беларусе» (№ 130), пісаў:

«І мы, беларуская эміграцыя, можам шмат што зрабіць, каб дапамагчы нашаму народу ў яго імкненьні да незалежнасьці, бо мы жывём у вольным сьвеце і можам свабодна весьці нацыянальную работу, якая там забаронена. Мы, дзеці сваёй Маці Беларусі, *да грабовае дошкі* (падкрэслена мною — Р. Ж.-Г.) ня можам забыцца пра наш абавязак у дачыненьні да Яе. Яна нас чакае, каб мы працай сваёй памаглі Ёй сьцінуць путы няволі, наложаныя ворагам, які высмоктвае зь Яе ўсе сокі й аграбляе з найбольшых нацыянальных скарбаў».

У 1967 годзе ў артыкуле «Сьвяты нацыянальны абавязак» кажа: «...Акт 25-га Сакавіка стварыў новую — незалежніцкую эру у нашай гісторыі, узьняў нас на ўзровень жывых дзяржаўных народаў. І хоць ворагі абрабавалі нас з нашай свабоды й незалежнасьці, яны не змаглі паняволіць нашых душаў, не змаглі зламаць нашай волі, нашых імкненьняў да свабоднага незалежнага жыцьця, не змаглі забраць нашай Ідэі — незалежнасьці Беларусі.

«Ідэя незалежнасьці Беларусі лучыць нас, усіх Беларусаў, у адным змагарным напрамку, незалежна ад таго, дзе мы ёсьць — дома ці на эміграцыі. Гэтая ідэя стымулюе ў нас актыўнасьць, творчы й змагарны дух, прыпамінае нам, што наша Бацькаўшчына паняволеная. Гэтая ідэя незалежнасьці Беларусі дае нам жыцьцёвы духовы зьмест і пабуджае нас да нацыянальнага жыцьця, да грамадзкай працы. Таму мы шануем і культывуем яе. Таму мы штогод сьвяткуем урачыста дзень 25-га Сакавіка — дзень незалежнасьці Беларусі, ды уцягваем у гэта сьвяткаваньне моладзь, нашу зьмену....

«Ідэя незалежнасьці Беларусі ёсьць нашым найвялікшым нацыянальным скарбам. За яе праліта кроў беларускіх патрыётаў. За яе пакутавалі й пакутуюць тысячы братоў і сясьцёр нашых. Перад яе віліччу, перад яе сьвятасьцю мусяць скарыцца й групы й асобы». В. Жук.

Словы гэтыя пісаныя чуць ня чвэрць стагодзьдзя таму назад, а як яны актуальны й сяньня...

Было гэта ў 1988 годзе ў часе сьвяткаваньня 25-га Сакавіка ў Таронта. Ладзіла яго Згуртаваньне Беларусаў Канады. Апошні раз у сваім жыцьці браў у ім удзел др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Быў даклад і паангельску й пабеларуску, але, як гэта ўжо ад некаторага часу ўвайшло ў звычай, у дакладах не гаварылася аб гісторыі паўстаньня Акту 25-га Сакавіка, бо «ўсе ведаюць».

Пасьля дакладаў папрасіў слова мой муж, Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Прывітаў урачысты сход са сьвятам дня незалежнасьці Беларусі і, не сьпяшаючыся, плаўна ў спакойным задуменьні, стаў расказваць пра падзеі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, пра ягоны разгон бальшавікамі, пра працу ў чыгуначным дэпо, стварэньне Рады й Сакратарыяту БНР і абвешчаньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Я слухала й дзівілася: адкуль у Яго ўзялася памяць бязь ніякіх нататак усё так дакладна й плаўна расказваць?!

Апошнімі часамі ён перапытваў: які дзень сяньня? Або: каторы гэта год цяпер?

Дык расказ ягоны на сакавіковым сьвяце, відавочна, плыў не з галавы й памяці, а недзе з глыбіні душы, якая з хлапечых гімназіяльных гадоў, праз усё жыцьцё — праз турмы, ссылкі, Монтэ-Касына, чужыну — толькі й жыла, працавала й цярпела для «пуцяводнае зоркі-ідэі — незалежнасьці Беларусі»...

Так закончыў *свае* сьвяткаваньні 25-га Сакавіка др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Сьпі спакойна, Вінцук, твая пілігрымка, тваё змаганьне — скончана. Яго прадаўжаюць новыя пакаленьні на Бацькаўшчыне й тут.

Сьпі, мой муж, мой сябра, настаўнік, мая маральная сіла й натхненьне! Хай споўняцца твае сны аб незалежнай Беларусі!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## СКАРЫНІНСКІ ГОД НА КАЛЕНДАРЫ

Царква Хрыста Збаўцы беларуска-бізантыйскага абраду ў Чыкага выдала каляндар на 1990 год, прысьвяціўшы яго 500-гадзьдзю ад нараджэньня Францішка Скарыны, перакладчыка Біблії, дзякуючы якому Беларусь сталася трэйцяй краінай у сьвеце, што пачула Слова Божае ў мове простага народу.

## РУСЫФІКАЦЫЯ — КАІНАЎ ЗНАК

На пленуме ЦК КПБ улетку 1953 году, на трэцім месяцы па сьмерці Сталіна, тагачасны першы сакратар ЦК КПБ Патолічаў, адбіваючы абвінавачаньні яго ў заняпадзе беларускае мовы й нацыянальнае культуры, заявіў, як даведваемся цяпер з часапісу «Саюз» № 6 за люты 1990 г. (артыкул Аляксандра Лукашука):

«Пачалося ўсё з таго, што ўсё справаводзтва ў дзяржаўным апараце было пераведзенае на расейскую мову. Калі гэта было, сказаць цяжка. Адныя кажуць у 1936 годзе, другія кажуць у 1937 годзе. За гэтым, як я сказаў-бы, рашаючым мерапрыемствам пайшлі іншыя...»

Пачыналася, значыцца, усё разам з Курапатамі. Пра гэта варта напамінаць цяпер тым зрусыфікаваным Беларусам, што лямантуюць супраць беларусізацыі. Хочуць яны гэтага ці не, але расейска-аднамоўныя Беларусы, сталіся міжвольнымі прадаўжальнікамі курапацкага гвалту над Беларусяй у галіне мовы, у галіне нацыянальнай культуры, і толькі іхнае далучэньне да беларускае мовы можа зьняць зь іх курапацкі Каінаў знак.

# СЬВ. ПАМ. ЮРКА МАЗУРА



Беларуская грамада ў штаце Мічыган, якая, хоць невялікая колькасьцю, была сваім часам дынамічнай, страціла яшчэ аднаго із сваіх сяброў-арганізатараў — дзейнага й творчага сябру, Юрку Мазуру, які памёр 4 лютага сёлета на 73-м годзе жыцьця.

Юрка, сын Беларуса з Навагрудчыны, былога царскага чыноўніка, а па матцы-стараверцы з дому Каштэлянавых, заўсёды называў сябе беларускім арыстакратам.

Радзіўся Юрка ў Полацку, дзе працаваў ягоны бацька, але дзіцячыя і школьныя гады правёў у літоўскім горадзе Укмэргэ. Дзесь у 12-гадовым веку пераехаў з бацькамі настала ў Навагрудак і тут усьведаміўся, што ён — Беларус, палюбіў свой народ і Бацькаўшчыну. Зь дзяцінства быў музыкальным і асабліва таленавітым скрыпачом, граў у паважаных аркестрах.

Служыў у польскім войску, а пасьля вельмі ганарыўся, што быў лейтэнантам і каманьдзерам зьвязу ў слаўным Беларускім Навагрудзкім эскадроне, дзе заўсёды насіў элеганцкую кавалерыйскую ўніформу, хоць не заўсёды быў добра здысцыплінаваны ў адносінах да сваіх вышэйшых каманьдзераў, як «арыстакрат», «артыст» і «амант».

У паваеннай Нямеччыне, із сваімі сябрамі з Навагрудка, пасяліўся пры ўнівэрсытэце ў Марбургу, дзе вывучаў музыку, удасканальваючы свае здольнасьці да іскрыпкі й адначасна вучачыся гармоніі й кампазыцыі. Тут, уключыўшыся ў моцную беларускую студэнцкую арганізацыю, дырыгаваў беларускім студэнцкім хорам, які здабыў сабе папулярнасьць ня толькі сярод усіх студэнтаў пры ўнівэрсытэце, але і ў беларускіх асяродках і лягерох у Нямеччыне, куды гэты хор выяжджаў з канцэртамі. На канцэртах гэных выконваліся хорам і салістамі (сам дырыгент меў добры тэнар) ня толькі папулярныя й народныя беларускія песьні, але й ягоныя ўласныя кампазыцыі, пераважна на словы Міхася Кавыля, паэзія якога Юрку вельмі падабалася («Князёўна» і інш.), і Натальлі Арсеньневай («Варта жыць»).

Кампазытар Мікола Равенскі казаў, што Мазуравы песьні й кампазыцыі маюць у сабе шмат «цыганшчыны», але кампазытар Мікола Куліковіч любіў Юрку, заахвочваючы яго да далейшай творчасьці й абяцаючы яму славу ягонага (Куліковічавага) наступніка.

Асяліўшыся ў Амэрыцы, у Дэтройце пры сваім родным дзядзьку із старой эміграцыі, Юрка ўладзіўся на заработную працу як красьляр у аўтамабільнай індустрыі, да чаго таксама меў здольнасьці. Адразу таксама пачаў грамадзкую дзейнасьць, навязаў лучнасьць з усімі новапрыбылымі сюды Беларусамі, нават і са старой эміграцыі. Пры помачы таксама прыбылага сюды аўтара гэтых радкоў ужо ў 1951 годзе быў зарганізаваны адзьдзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Мічыгане, першым старшынём якога быў выбраны Юрка Мазура.

Ня маючы дастаткова сілаў для хору ў Дэтройце, Юрка хутка скантактаваўся зь беларускім асяродкам у Кліўлендзе, дзе ён бачыў вялікі патэнцыянал сярод моладзі для стварэньня й шкаленьня хору. І вось пачалося супрацоўніцтва паміж Дэтройтам і Кліўлендам у ладжаньні канцэртаў і сьвяткаваньняў розных нацыянальных сьвятаў і гадавінаў. Кульмінацыйным мамэнтам была вельмі ўдалая сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Дэтройце, дзякуючы супрацоўніцтву й помачы кампазытара М. Куліковіча й кліўлендцаў.

Ю. Мазура езьдзіў як прадстаўнік ад Беларусаў Дэтройту на паховіны М. Куліковіча ў Чыкага й шмат прылажыўся да мастацкай часткі на ўшанаваньні памяці нашага слаўнага кампазытара, што адбылося ў Чыкага на першыя ўгодкі ягонае сьмерці.

На жаль, з прычыны сямейных праблемаў і заняпаду здароўя, мастацкая творчасьць Юркі спынілася, але ён да канца быў актыўным у дзейнасьці нашае парафіі.

Пакінуў па сабе Юрка чацьвёра ўжо дарослых дзяцей, старэйшага брата й малодшую сястру. Пакінуў і наш асяродак як сябра Рады БНР, капітан Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне, закладчык і колькіразовы старшыня адзьдзелу БАЗА ў Дэтройце, фундатар і сябра парафіі Сьв. Духа БАПЦ у Дэтройце.

Пахаваны 7 лютага 1990 г. на стараверскіх могілках каля Дэтройту, пры сваёй матцы.

Хай будзе яму пухам амэрыканская зямелька, якую ён палюбіў, і хай сьпіць «пад курганам гэрояў».

**Юзік С.**

### МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ЖАНІМСТВЫ

У 1988 годзе на Беларусі 21.75% беларусак выйшлі замуж за прадстаўнікоў іншай нацыянальнасьці і 30.1% беларускіх мужчынаў ажаніліся не зь Беларускамі. Прыблізна гэткі-ж малюнак і на Ўкраіне. У РСФСР Расейцы ствараюць менш міжнародных сем'яў: толькі 11.1% расейскіх жанчын і 9.7% мужчынаў зьвязалі сваю долю з прадстаўнікамі не свае нацыі.

Расейцы-ж, што жывуць вонках РСФСР, у ладна вышэйшай меры ўваходзяць у міжнацыянальныя жаніцтвы: у 1988 годзе на Беларусі 73.4% Расеек выйшла замуж за прадстаўнікоў іншае нацыянальнасьці і 74.5% Расейцаў ажаніліся зь нерасейкамі («Советская культура», 3.II.90)

### «МЭХАНІЧНАЕ ЗУБРЭНЬНЕ ЦЫТАТАЎ»

Студэнт Беларускага Праектна-Чарцёжнага Тэхнікуму Д. Спраўцаў хацеўбы, каб палітычныя заняткі ў ягонай навучальнай установе праходзілі ў атмасфэры свабоды. Але, незважаючы на пяты год перабудовы, усё ў БПЧТ адбываецца пастарому. Спраўцаў піша:

«Сталінізм пакінуў нам у спадчыну спрошчанае, плоскае, катэхізіснае мысьленьне. Сыстэма адукацыі да апошняга часу заставалася кузьняй кадраў-'віньцікаў' для адміністрацыйнай сыстэмы. Школа да гэтага часу арыентавана на мэханічнае зубрэньне цытатаў. Ці варта зьдзіўляцца што прэстыж сапраўдных ведаў, сапраўднай навуковай думкі ў нас такі нізкі». («Алергія ад... палітзаняткаў», «Чырвоная зьмена», 30.I.90)

# ВІКТАР ЯРМАЛКОВІЧ



Віктар Ярмалковіч, які памёр 15 сьнежня 1987 г., быў шчырым беларускім патрыётам, дасьледчыкам беларускай гісторыі, асабліва пэрыяду між першай і другой сусьветнымі войнамі і часу нямецкай акупацыі.

Сын селяніна зь вёські Юшкі, што на Віленшчыне, на 13-м годзе жыцьця пакінуў бацькаўскую хату дзеля навукі ў гімназіі друйскіх манахаў. Жорсткія ўмовы манастырскага жыцьця, фізычная праца выпрабілі ў падатлівай яшчэ дзіцячай псыхіцы хлопца трывалае пачуцьцё абавязку, цярплівасьці, самаахвярнасьці й сьціпласьці. Разам з гэтым манахі ў Друі засеялі ў ім пачуцьцё нацыянальнай сьведамасьці й гордасьці. Такім Віктар ужо застаўся на ўсё жыцьцё.

Нечаканая сьмерць бацькі змусіла перапыніць навуку ды заняцца гаспадаркай на працягу 1936-37 гадоў. Увосень 1937 году здаў экзамен у сёмую клясу Віленскай Беларускай гімназіі, а па заканчэньні яе залічыўся на юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. (Беларускіх манахаў з Друі віленскі біскуп Яблжыкоўскі разагнаў зь іхнае радзімы па ўсім сьвеце).

Рэпэтытарскай працай зарабляў сабе Віктар на сьціплае студэнцкае ўтрыманьне і, незважаючы на нарастатаньне пересьледу беларускага руху, актыўна дзейнічаў у Беларускім Студэнцкім Саюзе і ў рэдакцыі «Хрысьціянскай Думкі». Наступстваў гэтай дзейнасьці чакаць доўга не давялося. У жніўні 1939 г. паліцыя арыштавала яго і, як злачынцу, загнала ў канцлягер Картузская Бяроза. Нечалавечае, як пасьля ўспамінаў, глумленьне над ім трывала аднак ня доўга. Хуткая капітуляцыя Польшчы пад напорам нямецкае агрэсіі дала магчымасьць вызваліцца зь Бярозы. У дарозе дамоў сустрэўся Віктар зь іншымі «вызваліцелямі» — Чырвонай Арміяй. Яму ўдалося скончыць Віленскі ўнівэрсытэт у ўмовах літоўскай дзяржавы, і пасьля далучэньня Літвы да Савецкага Саюзу працаваў у Вільні як юрыст.

Калі на зьмену савецкай уладзе прыйшлі ў 1941 годзе нямецкія захопнікі і паклікалі мясцовую адміністрацыю, Віктар працаваў аплікантам у міравым судзе ў Лідзе, а пасьля быў пераведзены на становішча міравога судзьдзі ў Шчучын. Тут пачалася яго праўдзівая драма. Як абаронца мясцовага беларускага жыхарства, ён наткнуўся на варожасьць шчучынскай паліцыі, у якой пераважалі даваенныя паліцэйскія кадры. На ягоных вачах гінулі вартасныя, блізкія яму людзі: настаўнікі Павел Шляхтун, Аляксей Станкевіч, Марыя Боська, дзьве маладыя настаўніцы з Ражанкі, студэнт Рандарэвіч ды шмат іншых ні ў чым не вінаватых Беларусаў, як сьвятар Аляхновіч з жонкай, 8 сялянаў зь вёскі -Сарокі, сем'і Захарэвіча і Клышэвіча, селянін Панкевіч — усе замучаныя ў нечалавечы спосаб. Незважаючы аднак на пэрманэнтную небясьпеку, Ярмалковіч не заламаўся. Верны прынцыпам справядлівасьці, ён бараніў сваім аўтарытэтам судзьдзі кожнага невінаватага, і гэтым вырабіў сабе прыхільнасьць людзей. У 1944 годзе, у ўмовах поўнай анархіі й тэрору, працаваць далей ужо ня мог і, ажаніўшыся з Аўгеняй Шляхтун, выехаў у Варшаву, а адтуль — у гор. Біскупец, што на мазурскім прыазер'і.

У лістападзе 1949 году абое Ярмалковічы былі арыштаваныя, пераняўтыя савецкай контрразьведкай у Варшаве й вывезеныя ў Лігніцу. Як ні дзіўна, але час паказаў, што такі зварот лёсу стаўся праменьчыкам шчасьця ў нядолі: тая вайсковая ўстанова, не падпарадкаваная, мабыць, бэрыеўскім плянам даставы кантынгентаў нявольнікаў, правёўшы расьсьледаваньне, не знайшла прычынаў зьнявольваць сужэнства Ярмалковічаў, але палічыла іх грамадзянамі СССР і «запрапанавала» падпісаць заяву на паварот «на родину». Ці хто мог-бы адкінуць такую «прапанову»? Пытаньне лішняе.

Такім чынам, пасьля даўжэзнага падарожжа ў «цялятніках», апынуўся Віктар з жонкаю ў калгасе пад Іркуцкам. Пасьля намаганьняў аднак вярнуліся ў 1956 г. на зьмораную Бацькаўшчыну і адразу ўзяліся за настаўніцкую працу ў Старым Сяле на Віленшчыне. Віктар, прызначаны за дырэктара занядбанай у кожных адносінах школы, хутка паставіў яе на ногі, а ў сяле арганізаваў культурнае жыцьцё. Мясцовым вараціла аднак гэта было не па душы. Яны прыдумалі Ярмалковічу закіды ў антысталінскай прапаганьдзе ды іншыя недарэчныя абвінавачаньні, чаго ў 1952 годзе хапіла, каб чалавека засудзіць на 25 гадоў лягеру. Па сьмерці Сталіна ў 1953 годзе пачаліся расправы са сталінска-бэрыеўскім тэрорам, пачалі пераглядаць справы зьняволеных. Віктар быў прызнаны зноў невінаватым і вярнуўся да свае вернае Аўгені з сыночкам. Зразумеў аднак, што працягваць ранейшую працу было немагчыма і выехаў зь сям'ёю зноў у Біскупец у Польшчу. Тут і дажыў да канца сваіх дзён. Працаваў зубным тэхнікам, а ўвесь вольны час прысьвячаў гістарычным досьледам. Руплівa рэгістраваў ведамыя яму падзеі і сабраў інфармацыю гістарычнага значэньня, аналізаваў ведамыя яму факты й здарэньні. Сабраў неацэнныя, на маю думку, матар'ялы, што змогуць запоўніць некаторыя «белыя плямы» гісторыі нашага народу.

Із сваіх працаў апублікаваў у Польшчы толькі артыкулы: «Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні» (*Сустрэчы* № 6); «Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя» (*Веньзь* № 11. 1988) і «Заметкі пра Адама Станкевіча» (*біяграфічны слоўнік*).

Змораны невылячальнай хваробай, ніколі не наракаў у часе адведзінаў яго ў шпіталі. Незважаючы на пакуты, цікавіўся падзеямі грамадзкага жыцьця, рухам беларускіх студэнтаў у Польшчы, навінамі друку.

Памёр у шпіталі. У апошні шлях праводзілі яго вялікаю грамадою жыхары Біскупца, у якіх, відаць, заслужыў пашану. Ніхто аднак, апрача прыбітай горам спадарыні Аўгені з сынам ды мяне з варшаўскім студэнтам Міколам Ваўранюком, ня ведаў, каго запраўды аддаюць біскупіцкай — чужой памерламу — зямлі. Пакладзены намі скромны букецік з нацыянальнай кампазыцыяй красак у моры іншых вянкоў і букетаў падкрасьляў толькі адзіноцтва, у якім давялося скончыць жыцьцё сьветлай памяці Віктару Ярмалковічу.

**Янка Жамойцін**

# ВОДГУКІ НА ФОНД АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

Акцыя збору грашовых ахвяраў на Фонд Адраджэньня Беларусі пачалася памысна: людзі адгукнуліся і грашыма і словамі. Вось некаторыя галасы падтрымкі:

«Я радая зрабіць невялікі ўклад у справу адраджэньня свабоды й дэмакратыі ў краіне маіх бацькоў» (Лена Цупрык).

«Шчыра вітаю ініцыятыву стварэньня Фонду Адраджэньня Беларусі й цешуся, што арганізацыю гэтую ачолілі маладыя беларускія дзеячы» (др. Язэп Сажыч).

«Заклік на дапамогу Фонду Адраджэньня Беларусі атрымалі. Добра апрацаваны. Вітаем. Дэкляруем тысячу даляраў. Дапаможы Божа вашай працы» (Літвіна й Сяргей Гутырчык).

«Назоў арганізацыі, па-мойму, вельмі талковы. Добра напісаны заклік. Я асабіста вельмі задаволены, што нарэшце наша маладшае пакаленьне сур'ёзна бярэ на сябе вельмі важную працу» (Віталь Кажан).

«Цяпер або ніколі!» (Алекс і Ніна Сільвановіч).

«Вельмі рады, што ёсьць людзі, якія дбаюць аб Беларусах і Беларусі. Ім ад людзей падзяка, а ад Бога ўзнагарода хай будзе» (Марыя й Кастусь Верабей).

«Падтрымліваю, пасьля яшчэ прышлю» (Ірэна Цупрык).

«Всього найкращого у Вашій праці Фонду Відродження Білорусі!» (Надія і Марія Касянчук).

УСІМ ШЧЫРАЯ ПАДЗЯКА ЗА ШЧОДРАСЬЦЬ І СЛОВЫ ПАДТРЫМАНЬНЯ!

**Управа ФАБ**

## *КОРАТКА АБ ВАЖНЫМ*

— *«Кожны чацьверты* жыхар паўтараміліённага гораду (Менску) — гэта малады чалавек ў веку ад 16 да 29 гадоў». («ЧЗ», 30.I.90).

— *Культасьветпрацаўнікі ўцякаюць зь вёскі.* Галоўная прычына ўцёкаў — незадаволенасьць заработкам. Міністэрства культуры БССР запрапанавала павысіць зарплату на 50%. Заступнік міністра культуры Гілеп піша: «Цяпер сярэдні (месячны — рэд. «Б-са») заработак працаўніка культуры складае 104,3 рубля, сельскага культпрацаўніка — 90,5 рубля». («Сельская газета», 24.I.90)

На чорным рынку за амэрыканскі даляр плоцяць 10 рублёў; афіцыйны разьлік — 6 рублёў за даляр.

— *Толькі на Гомельскую вобласьць* прыпала 55 працэнтаў забруджанасьці радыёнуклідамі эўрапейскае часткі СССР. («СБ», 21.XII.89).

— *Васілю Быкаву было прысвоена званьне лаўрэата* (у ліку іншых 15 савецкіх пісьменьнікаў) «Литературной газеты», аднае з найбольш папулярных савецкіх публікацыяў. («ЛГ», 27.XII.89)

## УЗРОВЕНЬ, НА ЯКІМ ЯНЫ ЖЫВУЦЬ

У газэце «Чырвоная зьмена» (7.II.90), у рубрыцы «Дом і гаспадар», дадзеная парада пад заг. «Састаў для мыцьця драўлянай нефарбаванай падлогі і іншых прадметаў». Вось поўны «рэцэпт»:

У палове вядра гарачай вады растварыць ½ кілеграма гаспадарчага мыла. Калі мыла разыдзецца, дадаць у раствор ¼ часткі рачнога або будаўнічага прасеянага пяску і каля ½ літра вады і добра разьмяшаць, падграваючы. Загусьцелая спачатку маса пры далейшым награваньні зноў становіцца вадкай. Потым масу выліваюць у драўляную скрынку, а калі яна зацьвярдзее, вытрасаюць і рэжуць на кавалкі і карыстаюцца як звычайным мылам.

## АХВЯРАДАЎЦЫ

А. Асіповіч — ам. д. 1000, Я. Азарка — 1000, Ф. і В. Бартуль — 1000, Б. і Л. Грабінскі — 1000, А. Кіпель — 1000, А. Міцкевіч — 1000, Ул. Набагез — 1000, М. Смаршчок — 1000, М. і В. С. — 1000, Л. і М. Стагановіч — 1000, В. і Н. Стома — 1000.

Усім шчырая падзяка.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Управа ФАБ**

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

### САКРАТАРЫЯТ ФІНАНСАЎ

*«ДАР САКАВІКА»*

Месяц Сакавік — месяц абвешчаньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, БНР. Ідэя БНР не памерла, дзякуючы беларускім патрыётам, якія апынуліся на эміграцыі пасьля захопу Беларусі бальшавікамі.

Сёньня ўжо гавораць, і пішуць, і дыскутуюць аб БНР і ў Менску, дзе ўсё яшчэ й дагэтуль сталінскія выхаванцы трымаюць кіраўнічы руль у сваіх руках.

Ідэя вольнай і незалежнай Беларусі становіцца ўсё больш рэальнай. Беларусы, што жывуць у вольным сьвеце, на эміграцыі, павінны дапамагаць, у меру магчымасьцяў кожнага, пашыраць ідэю вольнай і незалежнай Беларусі, змагацца за яе.

Кожная палітычная праца патрабуе паважных фінансавых сродкаў.

Ужо традыцыйна, штагоду, у месяцы сакавіку праводзіцца збор дабраахвотных ахвяраў у Фонд Рады БНР ад усіх добразычлівых нашых суродзічаў.

Няхай кожны Беларус не адмовіцца злажыць сваю ахвяру на падпісную лісту «Дар Сакавіка», калі прадстаўнік Фонду Рады БНР зьвернецца да яго. Таксама, хто жадае, можа пераслаць сваю ахвяру беспасрэдна на адрас скарбніка Рады БНР, які паданы ніжэй.

Vitaly Kazan
183 Lawn Ave.
Stamford, Conn. 06902
U.S.A.

BYELORUSSIAN INSTITUTE OF ARTS & SCIENCES, INC.
230 SPRINGFIELD AVE.,
RUTHERFORD, NEW JERSEY 07070
USA.
TEL. (201) 933-6807



Ф. Скарына — беларускі першадрукар і асьветнік
F. Skaryna — Byelorussian protoprinter and Scholar

Юбілейныя індывідуалізаваныя канвэрты можна замовіць у друкара сп. Міколы Прускага, каб больш урачыста адзначыць скарынаўскі *500-гадовы юбілей. Адрас і тэлефон:* Mr. M. Prusky, 1086 Forest Hills Avenue SE, Grand Rapids, Mich. 49605. Tel.: (616) 942-0108.

## *НАМ ПРЫСЛАЛІ ПРЭСАВЫЯ МАТАР'ЯЛЫ*

К. Верабей, др. В. Рамук, В. Махнач, А. Дубовік, Л. Шурак, Ю. Касьцюкевіч, др. Р. Жук-Грышкевіч, Я. Міхалюк, Л. Стагановіч, К. Акула, В. Стома, А. Арэшка, Аўген Дубяга, А. Палескі, М. Скабей, Я. А.

Усім шчырая падзяка за супрацоўніцтва!

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## СЬВ. † ПАМ. АЛЯКСАНДРА ВЕРАБЕЙ

народжаная 22 сакавіка 1900 г. ў вёсцы Іванкавічы Баранавіцкае акругі, шматгадовая сяброўка беларускае грамады ў Нью-Ёрку, добрая прыхаджанка цэркваў сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне і Божае Маці Жыровіцкае ў Гайленд-Парку, шчырая Беларуска, адыйшла на вечны супачын 19 лютага 1990 году і пахаваная на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку, Н.-Дж. Вечная ёй памяць, а сям'і нябожчыцы, сыну Кастусю і ягонай жонцы Марысі — найглыбейшыя спачуваньні ў страце дарагое Маці.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## *БЕЛАРУСІКА Ў ЗАХОДНІМ ДРУКУ*

**Пра Івана Бушылу,** жыхара палескае вёскі, які на працягу 42 гадоў, пачаўшы ад 1947 году, хаваўся ў навакольным лесе ў Лунінецкім раёне, каб ня трапіць у рукі сталінцаў, падалі за прэсавым агенцтвам Асошыэйтэд Прэс шмат якія газэты сьвету. Некаторыя зьмясьцілі фатаграфіі Бушылы.

**Папулярны амэрыканскі тыднёвік «Тайм»** (29.I) зьмясьціў фота з дэманстрацыі ў Менску, на якім відаць бел-чырвона-белы сьцяг, «Пагоня» і транспарант з напісам «Божа багаславі Беларусь».

**Лёнданскія газэты выдавецтва «Таймс»** зьмясьцілі, ілюстраванае здымкі зь Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны, інтэрв'ю са старшынём Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі сп. Янкам Міхалюком, у якім сп. Міхалюк падрабязна расказаў пра беларускі цэнтар у Лёндане, Бібліятэку імя Ф. Скарыны ды Беларусаў Ангельшчыны.

**Бэльгійская газэта «Ле Суар»** (11.I) у паведамленні пра незалежніцкую масавую дэманстрацыю ў Вільні зазначыла, што разам зь літоўскімі нацыянальнымі сьцягамі былі таксама й нацыянальныя сьцягі беларускія, эстонскія, украінскія й латыскія.

**Папулярны францускі часапіс «Пары-Матч»** (11.I), у рубрыцы «Лісты з глыбінкі», зьмясьціў выпіску зь ліста С. С. Воюша (Сяржука Сокалава?), у якім аўтар пратэстуе супраць пасыланьня студэнтаў мэдыцыны на палявыя сельскагаспадарчыя работы замяж таго, каб выкарыстоўваць студэнтаў для дапамогі хворым.

**Выказваньне «выдатнага беларускага пісьменьніка» Алеся Адамовіча** пра небясьпеку выкарыстаньня ворагамі перабудовы войскаў на сваю карысьць пададзенае ў газэце «Нью-Ёрк Таймс» (22.I) у артыкуле пра падзеі ў Азэрбайджане. А. Адамовіч сказаў, што войска ў Азэрбайджан мусіла быць пасланае.

## СА СПАДЧЫНЫ В. ЯРМАЛКОВІЧА

Інстытут Беларусаведы ў Ляймэне ў Зах. Нямеччыне выдаў летась зборнік матар'ялаў Віктара Ярмалковіча пад заг. «Пазнавайма родны край!» Выданьне машынапісна-кэраксное, ілюстраванае. Падзагаловак зборніка: «Ліда і лідзкая зямля. Шчучынскі раён. Іўеўскі раён».

## ДЗЕ КУПІЦЬ ДАЗЫМЭТАР?

Адказваем на пытаньні некаторых нашых чытачоў:

Надзейны дазымэтар, які называецца Монітар-4 і які выявіўся эфэктыўным у ўмовах Беларусі (паводля інфармацыі Беларускае місіі пры ААН) можна купіць за 215 даляраў (20 працэнтаў зьніжкі пры закупе 10 і больш штук), пішучы на адрас:

S. E. International, Inc.
P.O. Box 39
156 Drakes Lane
Summertown, Tn 38483
Tel.: (615) 964-3561

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Б. Кіт ам. дал. | 200 |
| В. Тумаш | 100 |
| Беларускі Музэй і І-т Беларусаведы ў Ляймэне, Зах. Нямеччына | 100 |
| Г. Руднік | 100 |
| І. Каханоўская | 50 |
| А. Тэлеш | 40 |
| А. Філістовіч | 30 |
| М. Олійнік | 25 |
| М. Булыга | 25 |
| Г. Сенькевіч | 25 |
| Ю. Рэпэцкі за В. Круцька | 20 |
| С. Дудар | 20 |
| Я. Юхнавец | 15 |
| Усяго | 750 |

*Замест кветак на магілу с.п. Н. Орса:*

| | |
|---|---|
| Др. Ул. Набагез | 100 |
| Сям'я Андрусышын і Я. КахаНоўская | 50 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| М. і Н. Рагуля | 50 |
| Я., В. і Н. Запруднік | 50 |
| В. і Л. Кажан | 35 |
| Т. і Г. Паланевіч | 30 |
| І. Цупрык | 25 |
| В. Саўчанка | 25 |
| В. Заруцкая | 25 |
| Усяго | 440 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| А. Сільвановіч | 50 |
| М. Тулейка | 50 |
| А. Субота | 50 |
| М. С. | 40 |
| А. Тэлеш | 40 |
| А. С. | 30 |
| В. Тур | 30 |
| А. Філістовіч | 30 |
| а. К. Стар | 30 |
| А. Протас | 25 |
| а. В. Андрэюк | 25 |
| а. А. Радэнковіч | 20 |
| У. Харавец | 20 |
| М. Абрамчык | 20 |
| Г. Дубяга малодшы | 20 |
| А. Непейн | 20 |
| В. Круцько | 20 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| Б. Кірка | 43 |
| П. Конюх | 25 |
| К. Акула | 21 |
| В. Бурдзь | 20 |
| Усяго | 649 |

## НА ДАПАМОГУ БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У Саўт-Рывэры, 4 лютага 1990 г. сярод прысутных у залі было сабрана 215 даляраў.

| | |
|---|---|
| Ліда Закрэўская | 20 |
| Антон Даніловіч | 10 |
| Л. Каліноўская-Татун | 25 |
| Міхась Палюховіч | 25 |